№ 43 (880) 19 лістапада 2014

www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

# Што, калі заўтра прыйдзе Хрыстос?

Прышэсце. П'еса Аляксандра Апона.

Старонка 14–15

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## «Яны хочуць, каб Ганчарэнка скакаў»



Трэнеры пра звальненне Віктара Ганчарэнкі з «Кубані».

Старонка 11



Общероссийское Общественное Движение содействия духовному развитию населения «За Государственность и Духовное возрождение Святой Руси»

ОТКРОВЕНИЯ людям Нового века. Вести

Вера. Любовь. Надежда. Мудрость. www.otkroveniya.ru

## У Беларусі дзейнічае секта «Святой Русі»

На іх улётках ёсць усё: Пуцін, космас і Вялікая Русь. Старонка 2




## Што выгадна купляць у Расіі

Беларусы набываюць там тэхніку і новыя аўто. Старонка 6



## Сяргей Маскевіч, якога прысароміў Лукашэнка

Гісторыя жыцця міністра адукацыі.

Старонкі 4–5

# У Беларусі дзейнічае секта «Святой Русі»

У «Нашу Ніву» звярнуўся занепакоены чытач з Паставаў. Ён даслаў у Рэдакцыю сканы дзіўных улёткаў, у якіх было ўсё: Пуцін, космас і Вялікая Русь.

«Гэтыя ўлёткі і газету «Откровение» прынесла мне маці. Па яе словах, агітпрадукцыю раздавалі 9 лістапада на мясцовым кірмашы, — паведаміў Дзмітрый. — Рабілі гэта дзве жанчыны, прычым адна раздавала ўлёткі, а другая фатаграфавала працэс».

Высветлілася, што такім чынам рэкламуецца «Общероссийское общественное движение содействия духовному развитию населения «За Государственность и Духовное возрождение Святой Руси». Гэтая суполка зарэгістравана на тэрыторыі Расейскай Федэрацыі як некамерцыйнае аб'яднанне. Сама па сабе яна нешта сярэдняе паміж патрыятычнай арганізацыяй і рэлігійнай сектай. Узначальвае рух Леанід Маслаў — доктар тэхнічных навук, былы дарадца Эканамічнага ўпраўлення Адміністрацыі прэзідэнта РФ, дарадца Старшыні праўлення «Газпромбанка» і выкладчык у карпаратыўным інстытуце «Газпрома» і Вышэйшай школе эканомікі. Але цяпер Маслаў заняты больш важнай справай: паведамляецца, што з 26 жніўня і па сёння ён атрымлівае дыктоўкі ад вышэйшага Касмічнага розуму, які таксама называецца і «Айцом Нябесным», і нават «Біякамп'ютарам». Варта адзначыць, што, згодна з Маславым, менавіта ягоны «Айцец» яшчэ і стварыў інтэрнэт.

Ва ўлётках, якія напісаны бюракратычнай мовай, побач з партрэтам Пуціна і цытатамі як самога расейскага прэзідэнта, так і Вангі з Настрадамусам, паведамляецца аб «місіі славянскіх народаў» і «фарпосце духоўнага адраджэння чалавецтва», якім, вядома, з'яўляецца Расія.


Общероссийское Общественное Движение содействия духовному развитию населения
«За Государственность и Духовное возрождение Святой Руси»
(зарегистрировано в Министерстве юстиции РФ 13 марта 2013 года. Реестровый (учётный) номер 0012020233, ОГРН 1137799004738)

Откровения
№ 5 май 2014 год
людям Нового века. Вести
Вера. Любовь. Надежда. Мудрость. www.otkroveniya.ru

Канон Золотого сечения
4
Бесконечный ряд после запятой — 1,6180339887... Странная, загадочная, необъяснимая вещь: эта Божественная пропорция мистическим образом сопутствует всему живому. Всё подчиняется Божественному Канону, имя которому — Золотое сечение.

Великие реки-2014

Па версіі Маслава, зараз ідзе фазавы пераход: Зямля пераходзіць на больш высокі ўзровень вібрацый, і, канечне, перайсці разам з ёй змогуць толькі тыя, хто прыслухоўваецца да Касмічнага розуму. Для гэтага таксама неабходна духоўна аб'яднацца. Беларусь і Украіна — гэта непадзельная Святая Русь, сцвярджаецца ва ўлётках, і, калі ўсе нарэшце аб'яднаюцца, расейскі народ павядзе за сабой усё чалавецтва.

Каб даведацца, што патрабуецца ад патэнцыйных кандыдатаў у кліенты Касмічнага розуму, я патэлефанаваў па нумарах, якія былі на ўлётках. Жанчына, якая назвалася Любоўю Уладзіміраўнай Кузьміной, майму званку вельмі ўзрадавалася. Высветлілася, што яна ўдзельніца віцебскага «філіяла» руху. Падобныя суполкі, ахвотна расказала яна, існуюць па ўсёй Беларусі.

Называючы мяне «сонейкам», жанчына ў першую чаргу пацікавілася, адкуль я пра іх даведаўся. Пачуўшы, што я «атрымаў улётку ў Паставах», яна літаральна прыйшла ў захапленне: «Цудоўна!!!»

Па яе словах, ад удзельнікаў руху амаль нічога не патрэбна. Грашовыя выдаткі мінімальныя — сама Кузьміна набывае газет і ўлетак, якія раздае, прыкладна на 50 000 беларускіх рублёў на месяц. Галоўнае, што патрабуецца ад патэнцыйнага кандыдата, гэта быць гатовым да ўнутранага росту і самаўдасканалення. Прычым удзельнікам руху (Кузьміна настойвала, што яны не секта і не царква) наведваць храмы ніхто не забараняе. Бо Хрыстос, па яе выразах, быў «анёлам высокіх вібрацый», якога чалавецтва —«нізкавібрацыйнае» на той момант — не прыняло.

Цікава, што, па яе словах, мясцовыя ўлады арганізацыі не замінаюць. Не так даўно — 18 кастрычніка — яны без усякіх перашкод правялі свой «Сабор Святой Русі» ў Віцебскай абласной бібліятэцы імя Леніна. Удзельнічала ў ім каля 50 чалавек.

«Дамовіліся з Таццянай Мікалаеўнай, якая нядаўна стала дырэктаркай, і арандавалі актавую залу на другім паверсе, — сказала Кузьміна. — А яшчэ раней такі ж сабор праводзіўся ў Цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя Горкага».

У сваю чаргу кіраўніцтва бібліятэкі імя Леніна катэгарычна адмовілася ад таго, што ў іх праводзіўся гэты «сабор». Спачатку дырэктар Таццяна Адамян настойвала, што ні пра які рух яна не ведае, і казала, калі гэта ўсё ж здарылася, то праз дамоўленасці з мінулым дырэктарам.

Што ж тычыцца Любові Кузьміной, то яна ўпэўнена і апантана расказала пра ўсебаковую падтрымку руху.

«На Дажынках мы працавалі з міліцыяй. Яны ўсё ведаюць пра нас, — паведаміла мая суразмоўца. — Я сама некалькі гадоў таму дасылала нашыя інфармацыйныя матэрыялы ў рэзідэнцыю Лукашэнкі. І, як паведаміў наш кіраўнік Маслаў, каманда Лукашэнкі падзякавала за іх — сказалі, што Аляксандр Рыгоравіч чытае «Откровение».

Увогуле, па словах Кузьміной, рух падтрымлівае і патрыярх Кірыла, які таксама выказваў падзякі (зноў жа, так расказаў сваім прыхільнікам Маслаў). Ды і Пуцін на ўлетках знаходзіцца менавіта таму, што «таксама рэзаніруе, таксама ва ўнісон». Што ж тычыцца маіх сумненняў наконт аб'яднання Беларусі са «Святой Руссю», то Любоў Уладзіміраўна паабяцала, што я потым сам усё зразумею.

За паўгадзіны нашай гутаркі Кузьміна паведаміла мне шмат дзівосаў: і пра тое, што ўсе мы гіпербарэі, і пра ззянне, якое выходзіла з яе дыяфрагмы... Але бог — ці Касмічны розум — з ёй! Больш цікавіць не гэтае, а тое, што даволі неадназначная арганізацыя застаецца без увагі ўладаў, у адрозненне ад тых жа грамадскіх актывістаў і незалежных СМІ. Паспрабуйце раздаваць улёткі аб правах чалавека, пабачыце, праз які час вамі зацікавіцца міліцыя. А пра Касмічны розум — калі ласка. Можа, і праўда ўся справа ў вібрацыях?

**Улад Швядовіч**

# У паліклініку будзем хадзіць, як на працу?

**Ад 19 кастрычніка беларусы могуць выкарыстаць рэцэпт на лекі толькі аднойчы.**

Паводле новых правілаў, прынятых Міністэрствам аховы здароўя ў пастанове № 66, лекі выдаюцца ў абмен на рэцэпт. Самі ж квіткі мусяць заставацца ў аптэках. Таксама цяпер адзін рэцэптурны бланк можа выкарыстоўвацца толькі для аднаго прэпарата.

### Цяжкі шлях да паліклінікі

Новая схема атрымання лекаў сапраўды робіць няпростым набыццё моцнадзейных рэцэптурных прэпаратаў ва ўласным жаданні. Трэба сказаць, што ва ўсім свеце рэцэпты адбіраюць — каб не куплялі лішняга ці не набывалі лекі для перапродажу. Аднак новыя правілы адразу ж ударылі і па хранічна хворых. Доўгатэрміновыя рэцэпты сталі бескарыснымі: цяпер іх таксама можна выкарыстаць толькі аднойчы і пакінуць у аптэцы.

Пераход на новыя правілы адбыўся адразу, без папярэджання ці нейкага пераходнага перыяду, таму ў непадрыхтаваных людзей узніклі праблемы з лекамі і многія засталіся без прэпаратаў, бо прыёму спецыяліста можна чакаць не адзін дзень. Да таго ж людзі абураюцца, што цяпер ім давядзецца штомесяц хадзіць па дактарах, толькі каб выпісаць дакумент. А справа гэта не хуткая і нават небяспечная для аслабленага імунітэту, асабліва ў сезоны эпідэмій.

Адным з такіх гаротных пацыентаў стаў лідскі мастак Пятро Цімафееў. У яго хворае сэрца, і ён вымушаны прымаць тры рэцэптурныя прэпараты. Новую сістэму атрымання медыкаментаў ён характарызуе як «вельмі дрэнную»: «Раней доктар мне выпісваў рэцэпт на паўгода. Цяпер мне трэба хадзіць па рэцэпт кожны месяц, калі не часцей. І не для таго, каб мяне паглядзелі, а проста за паперкай. Мне трэба стаяць у чарзе. Ёсць такія лекі, якія трэба прымаць штодня. Без некаторых прэпаратаў, напрыклад, без «Сіднафарма», які я прымаю двойчы на дзень, я нават не магу выйсці з дома. Лекі танныя, але без рэцэпта іх не набудзеш».

### Афіцыйна ад Мінздароўя

Паводле новых правілаў, рэцэпты, выдадзеныя да 19 кастрычніка 2014 года, з'яўляюцца сапраўднымі падчас усяго тэрміну іх дзеяння. Пры набыцці лекаў па такім рэцэпце ў аптэцы мусяць зрабіць ксеракопію рэцэпта, а арыгінал аддаць уладальніку. Аднак дадзены парадак не распаўсюджваецца на тыя лекавыя сродкі, рэцэпты на якія і раней таксама павінны былі захоўвацца ў аптэцы на працягу аднаго месяца.

Пацыенты з хранічнымі захворваннямі таксама не мусяць хадзіць па дактарах кожны раз, каб атрымаць лекі. Такім асобам рэцэпты могуць выпісваць на тэрмін да шасці месяцаў. Такім чынам, падчас візіту ў паліклініку на кожны месяц можа быць выпісаны асобны рэцэпт. Рэцэпты нумаруюцца, а тэрмін дзеяння наступнага рэцэпта пачынаецца за 5 дзён да заканчэння папярэдняга. Таксама пацыент можа папрасіць доктара выпісаць рэцэпт па блістэрах, а не па цэлых упакоўках.

Пацыенты мусяць ведаць гэтыя правілы і настойваць на іх выкананні супрацоўнікамі паліклінік. Бо калі яны будуць выконвацца, чэргі ў паліклініках не мусяць істотна павялічыцца. На жаль, пакуль ніводная пастанова Мінздароўя не можа вырашыць праблему недахопу спецыялістаў і якасці аказання медыцынскіх паслуг.

**Кірыла Хілько**

### Самае чытанае на nn.by за 12 — 18 лістапада

1. У Гомелі сярод белага дня згвалтавалі 15-гадовую школьніцу
2. Чым займаліся вядомыя беларусы, калі ім было 25?
3. На ланчы G20 ніхто не захацеў сядзець побач з Пуціным ВІДЭА
4. 1500—2000$: сакратарка, якая аказвае сэкс-паслугі
5. Адам Глобус: Ахлабысцін — маральны вырадак
6. Уткін пра Мінск: Убогія ўражанні, горад для танкавых парадаў
7. Першая лэдзі Кітая мякка спыніла Пуціна ВІДЭА
8. У Кракаве з'явіліся «зялёныя чалавечкі»
9. 15-гадовую школьніцу з Гродна злавілі на прастытуцыі
10. Чым Ганчарэнка ім замінаў?

# Парашэнка: Украіна гатовая да поўнамаштабнай вайны з Расіяй

«У мяне стрыечны брат жыве ў Данецку. Дык вось, яго арыштавала ДНР. Шыюць яму, што ён быў «карэкціроўшчыкам агню». Ён быў патрыётам Украіны, ніколі не хаваў сваіх поглядаў. І вось... Ягоная маці абабіла парогі, ніхто нічога не кажа, міліцыя там нічога не значыць. Кажуць, яго трымаюць у «міністэрстве дзяржаўнай бяспекі», а яно нікому непадсправаздачнае. Судоў, кодэксаў — нічога няма. Забралі чалавека — і як прапаў. Толькі адзін ляпнуў маці, што «ён ужо прызнаўся ў адным выпадку карэкціроўкі», — расказаў нам беларускі перакладчык Анатоль Прасаловіч.

Беларусы ведаюць, як у ваенны час сусед зводзіць рахункі з суседам. Падонкі зводзяць, вядома.

Вось такая сітуацыя склалася і ў захопленых Расіяй пад прыкрыццём мясцовых элементаў раёнах Данбаса.



Напружанне там захоўваецца. Замежныя журналісты зафіксавалі перасоўванне шматлікіх калон вайсковай тэхнікі да лініі фронту. У Данецку, Дэбальцаве і ў раёне Севераданецка працягваюцца штодзённыя перастрэлкі. Чатыры-шэсць забітых украінскіх вайскоўцаў — гэта ў зводках норма. Закон вайны такі, што і з другога боку столькі ж гіне, відаць.

Агульная колькасць ахвяраў вайны між славянамі перавысіла 4200 чалавек. Гэта без уліку расійскіх дэсантнікаў, якія выконваюць «інтэрнацыянальны абавязак» на тэрыконах.

Заявы «афіцыйных асобаў» ДНР гучаць так, нібы рыхтуюць грамадскую думку да новага наступу. Генеральны сакратар НАТА Енс Столтэнберг паведаміў, што разведка Альянса зафіксавала сцягванне расійскіх войскаў да мяжы з Украінай. У сваю чаргу, прэзідэнт Украіны Пятро Парашэнка заявіў у інтэрв'ю нямецкай газеце Bild: «Мы падрыхтаваліся да сцэнара поўнамаштабнай вайны. Украінская армія знаходзіцца ў значна лепшым стане, чым пяць месяцаў таму».

Прэзідэнт таксама падкрэсліў, што цяпер Украіна «больш за ўсё прагне міру», але, на жаль, вымушаная быць гатовая да найгоршых сцэнароў.

Іх можа быць тры.

Стратэгічна Расіі трэба сухапутны калідор да Крыма, будаваць мост у Керч дорага, дый з ваеннага пункту гледжання ён уразлівы. Таму не выключана, што будзе спроба рукамі ДНР захапіць раёны Марыупаля і Бярдзянска.

Самі дээнэраўцы і элэнэраўцы прэтэндуюць на ўсе раёны Данецкай і Луганскай абласцей. За апошнія паўгода яны здолелі заваяваць толькі прыкладна трацціну тэрыторыі.

Нарэшце, не выключаны і шантаж Украіны з мэтай дабіцца далейшых саступак. Эканамічнае становішча нашай паўднёвай суседкі найгоршае з магчымых. Грыўня ўпала да 16 за даляр, сярэдні заробак ледзьве перавышае 200 даляраў. У краіне бракуе не толькі газу, але і вугалю, які раней паступаў з Данбаса.

Лідары краін Захаду страцілі апошнія надзеі, што з Расіяй па ўкраінскім пытанні можна «дамовіцца». На саміце ў Брысбене кіраўнікі іншых дзяржаваў усяляк давалі Пуціну зразумець, што яму брыдка падаваць руку. Ён пакрыўдзіўся і паехаў датэрмінова.

Заходнія каментатары сталі занепакоена абмяркоўваць, ці не развяжа Пуцін поўнамаштабную вайну ў адплату за гэтую дробную ганьбу.

Аднак канцлерка ФРГ Ангела Меркель дэманструе веру, што Украіна ўтрымаецца. Яна выступіла ў Аўстраліі з жорсткай прамовай, якую можна ў нечым параўнаць з Фултанскай прамовай Чэрчыля. А мільярдэр Джордж Сорас асабіста каардынуе збор пакета фінансавай дапамогі Украіне. Яе выдзяленне чакаецца адразу пасля ўтварэння новага ўрада краіны па выніках парламенцкіх выбараў.

**Мікола Бугай**

**Лукашэнка праз Лаўрова перадаў словы падтрымкі Пуціну: Вашы праблемы — гэта нашы праблемы**

«Апошнім часам сітуацыя вакол нашых межаў Саюзнай дзяржавы насцярожвае.

Мы не можам пагадзіцца з той актыўнасцю, якая сёння прадпрымаецца з боку заходніх дзяржаў на заходніх межах нашай Саюзнай дзяржавы.

Мы не можам пагадзіцца з тэндэнцыяй пагаршэння сітуацыі ва Украіне, не толькі ў Данбаскім, Данецкім рэгіёнах, але і ў цэлым ва Украіне», — адзначыў Лукашэнка.

**Малдова выдварыла з краіны групу грамадзян Расіі і Украіны**

Грамадзяне Расіі і Украіны, затрыманыя на мінулым тыдні па падазрэнні ў планаванні дэстабілізацыі становішча напярэдадні парламенцкіх выбараў, абвешчаныя персонамі нон-грата і высланыя з краіны.



**Андрэй Макарэвіч адсудзіў у Праханава 500 тыс. рублёў**

Суд задаволіў пазоў расійскага музыканта Андрэя Макарэвіча да пісьменніка Аляксандра Праханава і спагнаў з апошняга 500 тысяч рублёў (каля 11 тыс. даляраў) кампенсацыі.

Падставай для пазова Макарэвіча стала публікацыя Праханава «Певцы и подлецы» ў газеце «Известия» ад 18 жніўня, у якой пісьменнік заявіў, што сваім выступам на Данбасе артыст «натхніў» украінскіх вайскоўцаў бамбіць Данецк. У нататцы Праханаў напісаў, што Макарэвіч выступіў перад украінскімі вайскоўцамі ў горадзе Славянску.

Макарэвіч даказаў, што выступаў не перад вайскоўцамі, а перад бежанцамі і яго выступ праходзіў не ў Славянску, а ў Святагорску.

## Першая лэдзі Кітая мякка спыніла Пуціна

Кітайскія СМІ адцэнзуравалі кадры, як прэзідэнт Расіі ўкрывае Пэн Ліюянь пледам.

Першае правіла дыпламатыі гучыць так: «Не чапай жонкі калегі-прэзідэнта». Пуцін парушыў яго ў Пекіне.

У сталіцы Кітая адбываўся саміт краін Азіяцка-Ціхаакіянскага рэгіёна. Увечары 10 лістапада госці сабраліся ў Алімпійскім водным стадыёне. Апранутыя яны былі ў кітайскія нацыянальныя строі. Справа ад кіраўніка КНР Сі Цзіньпіня пасадзілі Абаму. Злева сядзела жонка Сі, Пэн Ліюянь, а побач з ёй — прэзідэнт Расіі.

Пакуль Сі размаўляў з Абамам, Пуцін абмяняўся парай словаў з жонкай гаспадара. Устаў, узяў плед і дзвюма рукамі накрыў ім Пэн.

Першая лэдзі Кітая зрэагавала імгненна, хоць і дыпламатычна.



Яна міла, з усмешкай падзякавала Пуціну, але ў тую ж секунду дазволіла пледу саслізнуць з пляч у рукі памочніка.

Відэа і фота гэтага моманту імгненна стала хітом кітайскага інтэрнэту, але толькі на пару гадзін. Армія цэнзараў выцерла кадры з усіх сайтаў і сацыяльных сетак. Відаць, эпізод палічылі неадпаведным рэпутацыі Старшыні Сі.

**Сяргей Гезгала**

## Малады палітвязень вытрымаў максімальны тэрмін

Яўгена Васьковіча перавялі з турмы ў калонію.

Пра гэта «Нашай Ніве» паведаміла яго маці, Рушанія Іванаўна.

«Ліст аб тым, што Жэню перавялі, прыйшоў яшчэ месяц таму. Сама я да яго яшчэ не ездзіла, і ён мне пакуль не пісаў, але адвакат яго наведваў. Сказаў, што ўсё ў Яўгена нармальна: адчувае сябе добра, ходзіць на працу — нешта там шые», — сказала яна.

Нагадаем, што Васьковіч быў асуджаны да 7 гадоў зняволення паводле абвінавачвання ў спробе падпалу дзвярэй бабруйскага аддзялення КДБ.

Спачатку хлопец адбываў пакаранне ў Магілёўскай калоніі № 15, а 12 кастрычніка 2011 года быў пераведзены ў Магілёўскую турму №4 як «злосны парушальнік рэжыму». Там хлопец сядзеў у камеры з 9 іншымі зняволенымі, аднак на ўмовы не скардзіўся. Шмат разоў Васьковіч трапляў у карцар — агулам ён правёў там 247 сутак. Такое цяжка сабе ўявіць!



У кастрычніку 2014 трохгадовы — максімальны! — тэрмін, які палітвязень павінен быў правесці ў турме, скончыўся, і хлопца перавялі ў калонію.

**УШ**

Пісаць Яўгену Васьковічу можна на адрас: 212013, Магілёў, Слаўгарадская шаша, 183, ВК-15. Васьковічу Яўгену Сяргеевічу.

## Праслед беларускіх патрыётаў працягваецца

Грамадскага актывіста Алеся Меха выклікаюць у Кобрынскі РАУС. Як паведаміў па тэлефоне ўчастковы лейтэнант Анатоль Тарасюк, на Меха заведзена адміністрацыйная справа як на «ўдзельніка паўстання ў Свіслачы». Можна было б пасмяяцца, бо інжынер-газавік замалады для ўдзельніка паўстання Кастуся Каліноўскага.

Але нічога смешнага ў сутнасці няма. Алесь Мех апошнія 6 гадоў штогод ездзіць у Свіслацкі раён на радзіму Кастуся Каліноўскага на дзень яго нараджэння. Туды з'язджаюцца беларускія патрыёты і з іншых гарадоў. «Мы аддаем даніну павагі нашым продкам і тым людзям, якія змагаліся за нашу і вашу вольнасць», — расказаў Мех на радыё «Рацыя».

І вось, спецслужбы з дапамогай міліцыі вышукваюць і штрафуюць людзей, што бралі ўдзел ва ўшанаванні пад бел-чырвона-белым сцягам. Гэта дэманструе іх сутнасць, лічыць Алесь Мех.

Кастусь Каліноўскі, нацыянальны герой Беларусі, вырас у вёсцы Якушоўка. Цяпер гэта Свіслацкі раён, край Белавежскай пушчы. Там на месцы сядзібы Каліноўскіх стаіць памятны знак.

Сёлета на ўшанаванне сабралася каля ста чалавек. За правядзеннем мерапрыемства ўвесь час сачылі міліцыянты са Свіслацкага райаддзела міліцыі, здымалі на відэакамеры, фіксавалі прысутных. Але затрыманых не было. Затое цяпер з людзьмі «разлічваюцца» на месцах.

**СГ**

### Сцісла

**Андрусю Тычыну шыюць парнаграфію**

Салігорская міліцыя выставіла афіцыйнае абвінавачванне ў распаўсюдзе парнаграфічных матэрыялаў мясцоваму маладафронтаўцу Андрусю Тычыну, паведамляе saligorsk.org.

Тычына проста пажартаваў, паставіўшы некалькі кліпаў з эротыкай. Наколькі абсурдныя гэтыя абвінавачванні, можна зразумець па тым, што адным з «эпізодаў справы» стаў скапіяваны Тычынам іранічны кліп беларускага рок-гурту «Разбітае сэрца пацана» на песню «Wall-E».

**СГ**

# Сяргей Маскевіч: міністр, якога

Гісторыя жыцця міністра адукацыі і ягоных **«амерыканскіх» дзяцей**.



**Сяргей Маскевіч**

Нарадзіўся 1 жніўня 1953 года ў вёсцы Быкаўка Шчучынскага раёна Гродзенскай вобласці. Скончыў Гродзенскі дзяржаўны педагагічны інстытут імя Янкі Купалы (1974), працаваў у ім у 1974—2005. У 1997—2005 быў рэктарам універсітэта. Дэпутат палаты прадстаўнікоў (2005—2012), міністр адукацыі (з 2010). Кандыдат (1983) і доктар (1996) фізіка-матэматычных навук. Жанаты, мае двух сыноў.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Нарада ўрада, Нацбанка і старшыняў аблвыканкамаў 11 лістапада была прысвечаная сітуацыі ў эканоміцы ў наступным годзе, але пасярод яе Аляксандр Лукашэнка вырашыў вываліць «кампрамат»: «Некаторыя ў нас міністры дапрацаваліся да таго, што іх дзеці пастаянна жывуць у Злучаных Штатах Амерыкі і навучаюцца там, а яны рэфармуюць нашу сістэму адукацыі. Зразумела, што будзе ад гэтых рэформаў».

Нічыё прозвішча ён у адкрытую не назваў, аднак пошукі па сацыяльных сетках хутка далі плён. Грамадскасць даведалася пра амерыканскую кар'еру Дзяніса Маскевіча, сына міністра адукацыі. Неўзабаве адрэагавала і прэс-служба міністэрства: «Дзеці [Сяргея Маскевіча] ніколі не вучыліся ў ЗША. Яны атрымалі адукацыю ў Беларусі — у Гродне і Мінску».

Сам міністр прадказальна вырашыў адмаўчацца.

Публічная крытыка — не толькі нагода паразважаць, як змяніцца лёс Сяргея Маскевіча пасля словаў Лукашэнкі, але і ўзгадаць гісторыю ягонага жыцця.

## Выпадковы дэпутат

Звычайна палітыкі маюць прыгожыя гісторыі прыходу да ўлады. Нехта марыў кіраваць краінай з дзяцінства, хтосьці сфармуляваў амбітныя мэты ў маладосці. Узлёт Сяргея Маскевіча на палітычны небасхіл быў не такім рамантычным, затое адметным, з улікам нацыянальнага каларыту.

Восень 2004 года. У Беларусі праходзіць рэферэндум, мэта якога — дазволіць Лукашэнку балатавацца на пасаду прэзідэнта без абмежавання па тэрмінах. Адначасова праводзіліся парламенцкія выбары.

У палаце прадстаўнікоў папярэдняга склікання некалькі дэпутатаў з «вертыкальнага спіса» перайшлі ў апазіцыю. Валерый Фралоў, Сяргей Скрабец і Уладзімір Парфяновіч нават аб'явілі галадоўку, патрабуючы зменаў у Выбарчы кодэкс.




Каб прэцэдэнт не паўтарыўся, у 2004 годзе складаць спіс «праўладных» кандыдатаў сталі больш уважліва. Удасканалілася і праца выбарчых камісій. Кожны чацвёрты абраны дэпутат, паводле выніковых пратаколаў, набраў 50,1—55% галасоў. Якраз дастаткова, каб лічыць сябе пераможцам першага тура.

Сістэма дала збой толькі двойчы. У Наваполацку мясцовыя жыхары не ацанілі сенатара і дырэктара мясцовага «Нафтазаводмантажа» Пятра Саламуху, яго давялося давыбіраць у другім туры.

А на адной з акругаў у Гродне пасля нечаканага зняцця з выбараў дзейнага дэпутата засталося два кандыдаты.

Прафсаюзніцы і настаўніцы англійскай мовы Людміле Сяўко супрацьстаяў выкладчык фізікі Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта Валянцін Аскірка, прадстаўнік Грамады. На каго з іх «ставіла» ўлада? Дастаткова сказаць, што Сяўко наступныя восем гадоў адседзела ў савеце рэспублікі... Але чаму ж не ў палаце прадстаўнікоў, куды балатавалася? Выбары на гродзенскай акрузе не адбыліся, нікому з кандыдатаў не налічылі патрэбныя 50%.

Каб «нейтралізаваць» Аскірку, на перавыбары, якія адбыліся ў Гродне вясной 2005 года, улады адправілі... ягонага навуковага кіраўніка, рэктара ўніверсітэта Сяргея Маскевіча.

Знаёмыя Маскевіча кажуць, што той не хацеў парламенцкай кар'еры і прасіў пакінуць яго ў Гродне.

Другім патэнцыйным удзельнікам выбараў у якасці ўладнага кандыдата быў галоўны доктар Гродзенскай абласной клінічнай бальніцы Святаслаў Савіцкі. Аднак кандыдатуру доктара вырашылі не выстаўляць. Сёлета імя Савіцкага ўзгадвалася ў сувязі з заведзенай крымінальнай справай за злоўжыванне службовымі паўнамоцтвамі.

Сяргей Маскевіч і стаў апошнім дэпутатам палаты. Пачынаўся сталічны этап жыцця гродзенскага фізіка. Цікава, што першыя месяцы ён яшчэ катаўся ў Гродна, каб дачытваць лекцыі. Навука для Маскевіча заўсёды была на першым месцы.

## Сяргей Аляксандравіч, сын Аляксея

Будучы доктар фізіка-матэматычных навук нарадзіўся ў звычайнай сялянскай сям'і ў вёсцы на поўдні Шчучынскага раёна. Асфальтаваная дарога да Быкаўкі так і не дайшла. І гэта галоўнае, пра што просяць нагадаць Маскевічу ягоныя землякі. У хаце сабралася з дзясятак старажылаў, якія пачынаюць узгадваць дзіцячыя гады чыноўніка.

Бацька міністра жыў у вёсцы ад нараджэння. Аляксей затрымаўся ў бабылях і ажаніўся толькі на пятым дзясятку, якраз пасля заканчэння Другой сусветнай. Жонку Лідзію ён сустрэў у адной з суседніх вёсак. Маладыя даволі доўга чакалі першае дзіця. Сяргей нарадзіўся ў 1953 годзе, услед за ім на свет з'явіўся Міхаіл, а пасля і трэці сын — Аляксандр.

Бацькі працавалі ў калгасе, ніхто і падумаць не мог, якіх вышыняў дасягне іх сын. Калі Сяргей Маскевіч выбіўся ў людзі, аднавяскоўцы прачыталі ягоную біяграфію і не зразумелі, чаму ён «Аляксандравіч»? Выявілася, што ў знаёмага ўсім Аляксея ў метрыцы насамрэч было запісанае іншае імя.

Аляксандр-Аляксей быў рэзкім чалавекам, узгадваюць вяскоўцы і расказваюць паказальную гісторыю. Жонка набыла яму ў Шчучыне штаны, але не разлічыла з памерам. Тады ён проста абсек лішнюю даўжыню сякерай, так пасля і хадзіў на смех усёй вёсцы.

Бацька памёр, калі сыны былі яшчэ малымі. Маці гадавала іх адна. Яна пайшла з жыцця некалькі гадоў таму.

Хата Маскевічаў стаяла на водшыбе, на хутары. Дый браты асабліва не звязваліся з вясковай кампаніяй. Не пілі і не курылі, кажуць былыя суседзі. Нават на танцы не хадзілі! А калі пасвілі кароў, заўседы бралі з сабой кнігі.



FOTOGRODNO.NET

**Маскевіч на фоне ўласнага партрэта ў ГрДУ.**

# прысароміў Лукашэнка

### «Ён можа раскрыцца толькі па-беларуску»

Базавую школу Сяргей скончыў у суседніх Балічах, а ў старэйшыя класы давялося хадзіць у Ракавічы. Калі ісці напрасткі, між вёскамі каля пяці кіламетраў. Але ўзімку дабрацца да школы было надзвычай складана, таму на некалькі месяцаў вучні сяліліся ў інтэрнаце каля школы.

Сёння Ракавіцкая школа-садок выглядае ідэальна дагледжанай. Перад уваходам стаіць вялізны слуп, які ўказвае адлегласць да буйных гарадоў — ад Шчучына да Токіа. На сценах — стэнды з інфармацыяй пра славутых выпускнікоў. Вядома ж, асобны прысвечаны асобе Сяргея Маскевіча.

Дырэктар школы-садка Іван Пазняк не заспеў славутага земляка, затое вучыўся разам з жонкай міністра. Тацяна Трафімовіч нарадзілася ў адной з суседніх вёсак. Яна атрымала адукацыю педагога. Цікава, што брат Сяргея Міхаіл пабраўся шлюбам з сястрой Тацяны.

Дырэктар запрашае пагутарыць з Марыяй Пракаповіч (Шляхтун), якая выкладала Маскевічу беларускую мову і літаратуру. Будучы міністр быў здольным і сціплым вучнем, кажа яна. Праўда, медаль не атрымаў.

Як у Сяргея складваліся адносіны з беларускай мовай? «У нас жа так і не прышчапілася тая руская! Па-беларуску і ўсе прадметы ў школе, і між сабой... — уздыхае Марыя Уладзіміраўна. — Я на Маскевіча цяпер гляджу па тэлевізары і так шкада яго. Ён жа можа раскрыцца толькі па-беларуску!»

Падчас працы ў Гродне Маскевіч часцяком аддаваў прыярытэт роднай мове. «Універсітэцкія рады ён праводзіў па-беларуску. Размаўляў сам і для астатніх быў прыкладам», — прыгадваў прафесар Вячаслаў Швед.

«Я лічу, што двухмоўе — гэта абавязак кожнага грамадзяніна Беларусі ведаць беларускую мову і валодаць ёй. Гэта не права выбару адной з двух моваў, а абавязак», — казаў сам Маскевіч.

Аднак палітычная кан'юнктура часам прымушае казаць адваротнае. У інтэрнэце згадваецца цытата Маскевіча наконт таго, што «чалавек, якому ўсе спецыяльныя тэрміны будуць выкладаць па-беларуску, сутыкнецца з праблемамі ў прафесійнай дзейнасці». Хоць ён сам вывучыў фізіку з матэматыкай па-беларуску і паспяхова абараніў кандыдацкую дысертацыю.

### Заслужаны фізік

У 1970 годзе, пасля заканчэння Ракавіцкай школы, Маскевіч паступіў на фізіка-матэматычны факультэт Гродзенскага педагагічнага інстытута імя Янкі Купалы (будучы Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт). Ён адвучыўся, атрымаў чырвоны дыплом і пачаў займацца даследчай дзейнасцю. У навучальнай установе фізік затрымаўся на наступныя 30 гадоў за выняткам службы ў ракетных войсках стратэгічнага прызначэння.

Лабарант, старшы інжынер, старшы навуковы супрацоўнік, старшы выкладчык, дацэнт, прафесар, прарэктар... — на шляху да кіравання ўніверсітэтам Маскевіч прайшоў усе магчымыя прыступкі. Прычым не ў якасці вясельнага генерала, а як сапраўдны даследчык. У паслужным спісе дзясяткі навуковых публікацый, складанне падручнікаў і патэнты.

Непадрыхтаванага чытача назвы навуковых даследаванняў Маскевіча могуць спалохаць. Ягоная кандыдацкая дысертацыя называлася «Спектральна-люмінесцэнтныя ўласцівасці вытворных тыяміну, піравінаграднай кіслаты і іх комплексаў з іонамі двухвалентных металаў у растворах», а доктарская — «Спектраскапія гіганцкага камбінаванага рассейвання святла і структурная арганізацыя адсарбаваных на металічнай паверхні малекулярных сістэм».

Калегі-фізікі запэўніваюць, што Маскевіч — адзін з найлепшых фізікаў у Беларусі.

### Палітычныя адлічэнні

Рэктарам ГрДУ ён стаў у 1997 годзе. Калегі кажуць, што з гэтай пасады Маскевіч меціў у міністры адукацыі яшчэ ў пачатку 2000-х, аднак Лукашэнка зрабіў выбар на карысць іншага рэктара: Аляксандр Радзькоў кіраваў Магілёўскім дзяржаўным універсітэтам імя Аркадзя Куляшова.

За час знаходжання на пасадзе рэктара Маскевіч адзначыўся некалькімі палітычнымі адлічэннямі. Першакурсніка Яўгена Скрабутана і старэйшага на курс Алеся Курсевіча выключылі за графіці «Спыніць русіфікацыю!» і «Зубр».



Міністр будуе катэдж у Вяснінцы.

«Адлічэннем займаўся ідэалагічны аддзел на чале з прарэктарам Тацянай Бадзюковай. Мой бацька хадзіў на прыём да Маскевіча, але з размовы вынікала, што рэктар ні пры чым і за ўсе рашэнні адказвае прарэктарка, — узгадвае Яўген Скрабутан. — Пазней часам сустракаў яго ў Гродне. Ён мяне пазнаваў, вітаўся, пытаўся пра мае справы... Можа, у дэмакратычнай краіне з Балонскім працэсам ён быў бы добрым рэктарам, але цяпер гэта звычайны закладнік сістэмы — марыянетка ў руках ідэалагічнага апарату, якая не можа мець уласнага меркавання і робіць усё па загадзе зверху».

Скрабутану ўдалося пасля шматлікіх скаргаў аднавіцца ва ўніверсітэце, але праз два гады яго адлічылі зноў, цяпер за каляндарыкі з выявай Аляксандра Мілінкевіча. Універсітэтам тады кіраваў ужо не Маскевіч, а ягоны наступнік Яўген Роўба.




Дзяніс Маскевіч асеў у ЗША.

### Спецыяліст шырокага профілю

Як згадвалася вышэй, з пасады рэктара Маскевіч перабраўся ў парламент. Дэпутаты мусяць вызначыцца, у якой пастаяннай камісіі будуць працаваць. Маскевіч быў абраны апошнім, і ў камісію па адукацыі, культуры і навуцы на чале са старажылам парламента Уладзімірам Здановічам раней за яго паспелі запісацца ўжо дзесяць чалавек. Фізіку давялося займацца бюджэтам, фінансамі і падатковай палітыкай.

У парламенце наступнага склікання адукацыйную камісію зноў узначаліў Здановіч, а Маскевіч стаў кіраваць міжнароднымі справамі і сувязямі з СНД.

Цікава, што адным з магчымых кандыдатаў на пасаду міністра адукацыі ў 2010 годзе называўся менавіта Уладзімір Здановіч. Цяпер ён узначальвае ў міністэрстве Дэпартамент кантролю якасці адукацыі і падпарадкоўваецца Сяргею Маскевічу.

### Без рэформаў

Дзейнасць Маскевіча на пасадзе міністра прынесла сістэме адукацыі пэўную стабільнасць. Мінуў час хаатычных рэформ Аляксандра Радзькова, калі доўга не маглі вызначыцца, колькі гадоў трэба вучыцца ў школе. «Ламаць ужо, напэўна, не трэба нічога, але шліфаваць давядзецца», — даваў наказ Лукашэнка Маскевічу.

Новы міністр доўгі час абыходзіўся касметычнымі пераўтварэннямі. Пры ім скакаў прахадны бал на ЦТ, пасля тэракта ў мінскім метро быў закрыты жаночы інстытут «Энвіла» (там вучылася Яня Пачыцкая, якая прыходзіла ў госці да Канавалава і Кавалёва).

Заўважныя змены апошняга часу — перавод многіх спецыяльнасцяў на чатырохгадовы тэрмін навучання.

### Амерыканскія сыны

Дзеці Маскевіча насамрэч засталіся ў ЗША.

Пра малодшага сына, Дзяніса, інфармацыі больш. Ён скончыў БДУ і нямецкі ўніверсітэт Мангейма, а пасля пераехаў у Амерыку. Бацька тады яшчэ быў рэктарам. «Гэта чалавек, які трапіў у ЗША сваім розумам, а не бацькавымі сувязямі», — пераконвае знаёмы братоў.

Дзяніс — спецыяліст у галіне праграмавання і вэб-дызайну. Паводле рэзюмэ, апошнія паўтара года ён працуе ў кампаніі *BloomReach*.

Другі сын, Ігар, таксама жыве ў Амерыцы больш за 10 гадоў. Ён вучыўся ў Гродне і Мінску.

### Жыццё на два гарады

Што будзе рабіць Сяргей Маскевіч у выпадку магчымай адстаўкі? Як мінімум да яго вяртання гатовыя ў Гродзенскім дзяржаўным універсітэце. Былыя калегі Маскевіча расказваюць, што ў лабараторыі дагэтуль за ім лічыцца свой стол і камп'ютар.

Побач сядзіць ягоны брат Аляксандр, таксама фізік. Ён выкладае і піша доктарскую дысертацыю. Праўда, унёсак Аляксандра ў навуку значна меншы, чым у старэйшага брата, прызнаюцца калегі.

На выпадак вяртання фізік пакінуў сабе і жыллё ў Гродне. Кватэру на праспекце Кляцкова Маскевіч калісьці атрымаў ад універсітэта. Калі пайшла гаворка пра магчымы перавод усяго непрыватызаванага жылля ў дзяржаўны арэндны фонд, міністр вырашыў усё ж разлічыцца за кватэру. Трохпакаёўку ацанілі ў 45 мільёнаў рублёў, гэтыя грошы давядзецца выплаціць за 40 гадоў.

Дзякуючы статусу дэпутата, Маскевіч змог стаць у чаргу на будаўніцтва жылля і ў Мінску. Ён пабудаваў двухпакаёўку ў сталічным раёне Сухарава.

А на першую гадавіну знаходжання на пасадзе міністра Маскевіч атрымаў царскі падарунак — надзел пад будаўніцтва ў Вяснінцы.

Кадастравы кошт 13 сотак элітнай зямлі дасягае $240 тысяч, рынкавая цана можа даходзіць да $1 мільёна.

«Няправільна гэта. Хата тут стаіць, хай бы браў і апрацоўваў зямлю, калі яму трэба», — перакананы вясковы староста ў Быкаўцы. «А ў каго ва ўрадзе няма? Калі ў іншых ёсць, то і ў Маскевіча хай будзе!» — абараняе міністра вясковая настаўніца. Яе заробак, дарэчы, складае 3 мільёны рублёў.

**Адар'я Гуштын, Ягор Марціновіч**




У роднай хаце Маскевічаў ніхто не жыве.

# Што выгадна купляць у Расіі

Пасля абвалу расійскага рубля беларусы **набываюць там тэхніку і новыя аўто.**

Беларускія аўтарынкі стаяць паўпустыя. Праз абвал расійскага рубля цэны ва ўсходняй краіне-суседцы сталі больш прывабнымі. Першыя купцы аўтамабіляў пацягнуліся ў Расію яшчэ ў пачатку года, цяпер выгада яшчэ большая.

У Расіі даляр каштуе 47 рублёў, гэта на траціну менш, чым улетку. А вось цэны не паспелі вырасці так хутка.

Пачнем з танных мадэляў. Новая мадэль «Рэно Сандэра» з рухавіком 1,6 у камплектацыі «камфорт» (без бартавога камп'ютара і падагрэву крэслаў) каштуе ў Мінску $11 тысяч, і гэта з улікам акцыі.

Такі самы аўтамабіль каштуе ў Маскве $9500, але расейцам даступная і яшчэ больш простая камплектацыя. За яе давядзецца аддаць $8500. Зборка, вядома ж, расійская.

Чым аўтамабіль даражэйшы, тым розніца ў цане большая. Напрыклад, новы «Фальксваген Пасат» — легендарная машына для беларусаў — каштуе ў Расіі ад $21 тысячы. У нашай краіне мінімальны цэннік стаіць на ўзроўні $33 500.

На машынах прэміум-класа ашчадзіць яшчэ прасцей. BMW X6 на ўсходзе каштуе $64 тысячы, а ў Беларусі — $88 тысяч. На розніцу можна набыць яшчэ адно новае аўто!

Некаторыя беларускія дылеры, якія спецыялізуюцца на продажах машын, сабраных у Расіі, па змаўчанні ўказваюць цэны ў расійскіх рублях. Напрыклад, «Таёта Камры» ў абедзвюх краінах каштуе каля $21 тысячы (каля 1 мільёна расійскіх рублёў). У такой сітуацыі ашчадзіць не ўдасца.

Беларусы, якія спрабавалі набыць дарагі тавар — асабліва аўто — у Расіі, часцяком сутыкаліся з падманам. У дамовах у апошні момант узнікаюць пункты пра дадатковыя камісійныя плацяжы альбо высвятляецца, што машыны па раней указанай цане больш няма. З такімі выпадкамі купцы сутыкаюцца штодня, і вельмі рэдка ўдаецца выйсці з непрыемнай сітуацыі без грашовых стратаў.

Што да былых у выкарыстанні аўтамабіляў, то розніца ў цане таксама агромністая. Але і перспектыва сустрэць махляроў узрастае яшчэ больш.

Беларусы едуць у Расію і па тэхніку. Дый не толькі беларусы — новыя «айфоны» ў Маскве таннейшыя, чым ва ўсіх іншых краінах свету! Рэч у тым, што *Apple* не змяняе сваіх цэнаў у залежнасці ад ваганняў курсаў.

У выніку *iPhone 6* прадаецца ў расійскіх салонах па $680. Напрыклад, у Польшчы афіцыйная цана — $885. Пры куплі ў Еўрасаюзе частку грошай можна вярнуць па сістэме такс-фры, аднак усё адно расійская прапанова больш выгадная. Для параўнання, у беларускіх інтэрнэт-крамах такі самы *iPhone 6* (прыцягнуты з Расіі ці Еўропы) каштуе $835.

Цэны на лёгкі ноўтбук *MacBook Air 13'* ад той жа кампаніі *Apple* у Расіі, Польшчы (з улікам вяртання такс-фры), а таксама ў інтэрнэт-крамах Беларусі выглядаюць наступным чынам: $880 — $1050 — $1100 адпаведна.

Іншыя вытворцы і прадаўцы хутчэй адгукаюцца на сітуацыю на фінансавым рынку. Напрыклад, тэлевізар LG47LB650V з магчымасцю прагляду 3D можна набыць у Расіі за $575. Такая ж цана і ў Польшчы з улікам поўнага вяртання ватаў. У беларускіх інтэрнэт-крамах давядзецца заплаціць на $100 больш.

Люстэркавы фотаапарат *Canon EOS 1100D* без аб'ектыва ў Маскве можна набыць за $230. У Польшчы за яго просяць $310, у Мінску такі ж каштуе $330.

«Старыя» цэны пратрымаюцца яшчэ некалькі месяцаў, пакуль расійскія крамы не распрададуць тавар, закуплены па ранейшым курсе. Аднак пераднавагодні ажыятаж вымые з рынку самыя выгадныя прапановы.

**Ягор Марціновіч**

## Самы малады міністр

36-гадовы **Аляксандр Церахаў** будзе кіраваць ЖКГ.

Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі ўзначаліў Аляксандр Церахаў.



Ягонага папярэдніка, Аляксандра Шорца, забралі кіраваць Мінгарвыканкамам.

Аляксандр Лукашэнка ўсё часцей прызначае на свабоднае месца міністраў іх першых намеснікаў. Лілія Ананіч вырасла да пасады міністра інфармацыі, Уладзімір Амарын — міністра фінансаў. Церахаў таксама быў першым намеснікам.

Ён стаў самым маладым міністрам — яму ўсяго 36 гадоў. Для Беларусі гэта рэдкасць.

Аляксандр Церахаў нарадзіўся ў Гомелі, скончыў Гомельскі дарожна-будаўнічы тэхнікум, Беларускі дзяржаўны універсітэт транспарту, а пасля яшчэ і Акадэмію кіравання.

Церахаў працаваў у будаўнічамантажным трэсце №2, а ў 2006—2011 рабіў кар'еру ў Гомельскім аблвыканкаме, дайшоўшы да пасады начальніка ўпраўлення ЖКГ. Наступныя тры гады ён працаваў першым намеснікам міністра ЖКГ.

**ЯМ**



Міністр эканомікі Мікалай Снапкоў (злева), старшыня Мінскага сталічнага саюза прадпрымальнікаў і працадаўцаў Уладзімір Карагін, генеральны дырэктар Бізнэс-школы ІПМ Павел Данэйка (справа).

У сталічным гатэлі «Рэнесанс» праходзіць Сусветны тыдзень прадпрымальніцтва ў Беларусі. Падчас адкрыцця міністр эканомікі Мікалай Снапкоў заявіў, што інавацыі павінны стаць драйверам росту беларускай эканомікі, а дзяржава гатова падтрымліваць прадпрымальнікаў у гэтай сферы.

## Чыноўнікі пасварыліся на нарадзе ў Лукашэнкі

Анфімаў крытыкаваў Ермакову, а Мясніковіч не знайшоў паразумення з Рудым.

Падчас даклада ўрада, Нацбанка і аблвыканкамаў Аляксандру Лукашэнку аб рабоце эканомікі сярод выступоўцаў не было адзінства.

«Эканоміка стала закладнікам банкаўскай сістэмы. Банкаўская сістэма стала свайго роду МММ, дзе ламавую нагрузку цягнуць прадпрыемствы рэальнага сектару», — заявіў старшыня КДК Леанід Анфімаў. Ягонае ведамства разам з прамысловымі міністэрствамі выступае за нарошчванне грашовай масы і далейшую раздачу крэдытаў прадпрыемствам.

Нацбанк у сваю чаргу заклікае да больш жорсткай манетарнай палітыкі.

Яго старшыня Надзея Ермакова ўскочыла з месца, перабіваючы Анфімава: «Мы не згодныя з пазіцыямі, што Нацбанк і банкаўская сістэма ператварыліся ў МММ. Таму я хацела б папрасіць вас стварыць камісію, якая б дала ацэнку працы Нацбанка», — заявіла Ермакова, шукаючы падтрымку.

«Чаму вы не селі ўдваіх [з Анфімавым] і адно аднаму не паклалі на стол матэрыялы і не супаставілі?» — перабіў яе Лукашэнка.

«Каб не было больш размоў наконт таго, што вы там жыруеце разам з банкамі, давайце дамовімся так. Ваш заробак павінен быць недзе блізкая да заробку прэм'ер-міністра, — працягнуў ён. — Усе астатнія павінны быць выбудаваны, як ва ўрадзе. Хто не хоча працаваць — звальняйцеся адразу. Тое ж самае па расходах усіх банкаў, пачынаючы ад вас і заканчваючы іншымі. Абыдзецеся двума аўтамабілямі ў Нацбанку для абслугоўвання — значыць, два легкавыя аўтамабілі. Сёння гэта нятанна, тым больш такія цэны на бензін».

Падчас нарады адбылася яшчэ адна дыскусія на тую ж тэму — паміж прэм'ер-міністрам Міхаілам Мясніковічам і дарадцам прэзідэнта Кірылам Рудым.

Мясніковіч ад імя ўрада патрабаваў крэдыты на мадэрнізацыю.

«Каб крэдыты былі даступнымі, стаўка павінна быць не вышэйшай за рэнтабельнасць. То бок, напрыклад, для прамысловасці стаўка павінна быць не большай за 10%». «Значыцца, інфляцыя павінна быць не большай за 9%, — пачаў яму тлумачыць Руды. — Гэта не ліберальная прапанова, ліберальнай з'яўляецца свабодная эмісія. Тут хутчэй прапануецца ўвядзенне грашовай дыктатуры».

«У гэтай сувязі камісія прапануецца зрабіць прыярытэтам на два гады зніжэнне інфляцыі да сярэднегадовага значэння 9%. І далей імкнуцца зніжаць яшчэ ніжэй. Гэта цалкам рэальна, — звярнуўся ён да Лукашэнкі. — Трэба кіраваць грашовай масай і, магчыма, перагледзець у бок скарачэння шэрагу дзяржпраграм».

«Трэба разумець, што інвестыцыйная актыўнасць будзе зніжаная, ВУП будзе меншым за 100% і заробак будзе ніжэйшым», — стаў шантажаваць — перадвыбарчы год! — Мясніковіч, але ў Рудага было яшчэ шмат аргументаў.

«Зніжэнне працэнтных ставак, наадварот, стымулюе інвестыцыйную актыўнасць, а не зніжае», — гнуў сваю лінію ён.

Лукашэнка папрасіў пракаментаваць сітуацыю кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Андрэя Кабякова. Той паспрабаваў адказаць «і нашым і вашым»: «Кірыл Валянцінавіч мае рацыю ў перспектыве, што трэба выходзіць на аднагачную лічбу па інфляцыі, а не на двухзначную. Але за адзін год гэтага не зробіш, таму тут мае рацыю Мясніковіч».

**ЯМ**

## Фермер з Магілёўшчыны пачаў выраб фуа-гра

Гаспадар страусінай фермы Алег Баранаў вырашыў пераняць досвед замежных калег у вырабе фуа-гра.

На Магілёўшчыне такая вытворчасць з'явілася ўпершыню, а вось на Захадзе традыцыйны далікатэс з печані тлустага гусака вырабляецца стагоддзямі. У Францыі вытворчасць фуа-гра рэгламентуецца нацыянальным законам, бо тлустая печань прызнана часткай культурнай і гастранамічнай спадчыны краіны.

Цана аднаго кілаграма фуа-гра ў элітных рэстаранах — каля 300 еўра. Магілёўскі аналаг будзе каштаваць у тры разы танней.

Магілёўскае фуа-гра таннейшае, бо вырабляецца з пячонкі страуса. Больш за тое, калі печань гусака важыць 300—350 грамаў, то страусіная дасягае 4—5 кілаграмаў.

Спецыялісты фермы лічаць, што печань добра ўкормленага страуса, адмысловым чынам вымачаная ў малацэ і содзе, па пажыўных якасцях ідэнтычная печані гусі.

У Беларусі ўнікальны прадукт з'явіцца ў рэстаранах і ў гандлёвай сетцы «Еўраопт». Элітным прысмакам зацікавіліся і ў вядучых рэстаранах Расіі.

**Фарыд Беррашэд**

# «Апошні раз чула голас сына ў сакавіку»

**Сямейныя разборкі скончыліся крымінальнай справай.**

Свайго 4-гадовага сына Кацярына не бачыла з 1 сакавіка. Муж забраў яго на выходныя і не вярнуў. Дзевяць месяцаў жанчына абівала парогі міліцыі, каб пачалі яго пошук. І толькі 31 кастрычніка завялі крымінальную справу аб знікненні хлопчыка. А разам з ім і бацькі. Сямейная драма разыгралася ў Баранавічах.

«Я некалькі разоў звярталася ў міліцыю, але ўсё марна, — расказвае Кацярына, канцэртмайстар Гарадзішчанскай дзіцячай школы мастацтваў. — Калі Віктар браў сына на выходныя, мы яшчэ былі ў шлюбе, таму мелі роўныя правы. І таму мне адказвалі: «Як гэта сын знік без вестак, калі знаходзіцца з бацькам?» У красавіку суд вызначыў месца пражывання Расціслава са мной. Але ў міліцыі мяне ўсе папікалі, што мы не развяліся. Калі ж нас развялі, 30 мая, усё адно не заводзілі справу».



Жанчына расказвае, што ні на адно судовае пасяджэнне былы муж не з'явіўся. І Віктар нібы і не ў курсе, што сына трэба вярнуць на выхаванне маці. «Адцягвала завядзенне крымінальнай справы і тое, што маці Віктара прыходзіла ў міліцыю з відэазапісамі майго сына — нeяк Віктар ёй перадаваў. Іх было тры. Яны без гуку. Яна тлумачыла, што з сынам стэлефаноўваецца, што ў іх усё ў парадку. А Расціслаў хоча жыць з татам. Я праглядала гэта відэа. Сын у мяне бландзін — а на адным з запісаў ён пафарбаваны ў чорны колер. Ён выглядае запалоханым: глядзіць у падлогу, рукі прыціснутыя да цела. На трэцім відэа ў яго яшчэ і сіняк пад вокам. І гэта не насцярожыла нікога».

### «Зламаў мне сківіцу»

Кацярына пазнаёмілася з Віктарам, калі яшчэ была падлеткам. Сустракаліся ў нефармальных моладзевых гуртах. А адносіны завязаліся пазней. Калі хлопец паспеў адсядзець за наркотыкі.

«Калі пачалі разам жыць, ён то калоўся, то кідаў. І ўвесь час абяцаў: ажэнімся — завяжа, нараджу дзіця — завяжа. А я верыла, што маё каханне такое моцнае, што я выратую яго. І паўгода да вяселля ён не калоўся, не курыў, не піў. І я падумала, што вылечыла яго. Але марна.

Цяжарнай вазіла яго ў Мінск у наркадыспансер — лячыўся. Але ўсё адно зрываўся, браў таксі за 500 тысяч і ехаў у Баранавічы, каб укалоцца».

Жанчына кажа, што муж не працаваў. Не магла працаваць і яна, бо даглядала дзіця. Таму «матэрыяльна я залежала ад яго, а ён — ад сваёй маці». А ў канцы 2013 вырашыла сысці ад мужа: перабралася на кватэру сваёй мамы ў Баранавічах.

«Расціслаў пайшоў у садок, я ўладкавалася на працу. Але мне трэба было ад'ехаць у Брэст. І ён скарыстаўся гэтым. Патэлефанаваў у аддзел па справах непаўналетніх і сказаў, што я алкагалічка, дома не бываю па паўгода — трэба ратаваць дзіця, а бабуля не аддае. Так ён забраў Расціслава. І з 27 снежня па 7 студзеня я не магла знайсці іх. 31 снежня я падала заяву на развод. А калі падала яшчэ і заяву на вызначэнне месцажыхарства сына, Віктар аддаў Расціслава і нібыта вырашыў памірыцца.

На судзе ў студзені ён прызнаўся аб праблемах з наркотыкамі, што біў мяне (яшчэ падчас маёй цяжарнасці зламаў мне сківіцу). Казаў, што хоча захаваць сям'ю. І суддзя прапанавала забраць заяву: маўляў, бацька раскайваецца. Я забрала. А калі Віктар зразумеў, што я не думаю вяртацца, забраў дзіця: узяў яго на выходныя, а па тэлефоне сказаў, што больш Росціка я не ўбачу. І з сакавіка я не чула голасу свайго сына».

### «У нас генацыд бацькаў»

Звязацца з Віктарам цяпер немагчыма. Мы звярнуліся да ягонай маці — жанчына прадстаўляла інтарэсы сына на судах.

— Кацярына Рыгораўна ў шлюбе здраджвала Віктару Віктаравічу. Песні спявала ў электрычках, танцавала, бамжавала. Поўны амаральны лад жыцця. Яна дзіця кідала і сыходзіла. А ўвесь бруд льецца толькі ў бок майго сына.

Калі жанчына знаходзіць каханка, муж аўтаматычна ператвараецца ў звера. Чаму ж са зверам жыла сем гадоў? А які ўплыў акажа на дзіця яе каханак, я не ведаю. Я не хачу, каб хлопчыка чужы сужыцель штурхаў і шпуляў. Бо ні аднаму мужыку не патрэбны чужыя дзеці.

**«НН»: Але суд вырашыў пакінуць Расціслава з мамай.**

— Бо ў Беларусі па законе, хай маці нават будзе закончанай алкашкай, дзеці заўсёды застаюцца з ёй. Суд дае ёй магчымасць выправіцца і заплюшчвае на гэта вочы. У нас проста генацыд бацькаў, іх лічаць чыста спермадонарамі. Пасля іх кідаюць і выціскаюць з іх аліменты і на ўсё іншае — на лячэнне, на адзенне. І каб бацька з сынам не кантактаваў.

**«НН»: А Вы з сынам падтрымліваеце кантакты?**

— Я не абавязаная адказваць на гэтыя пытанні.

**«НН»: Ён будзе дамагацца, каб Расціслава суд пакінуў з ім?**

— Безумоўна, у Вярхоўным судзе... Віктар Віктаравіч з нараджэння дзіцяці і гатаваў, і мыў. Кацярына Рыгораўна ніколі нічога не рабіла. Гэта чалавек, які не прыстасаваны да жыцця. У яе ў галаве толькі музыка, рэпетыцыі, вакал, акцёрская кар'ера... А да дзіцяці ёй справы ніколі не было.

**«НН»: У Вашага сына былі праблемы з наркотыкамі?**

— Вельмі даўно. У 2007, здаецца. І гэта не праблема. Да справы гэта не адносіцца — сёння 2014 год. Ва ўсіх па маладосці з чымсьці былі праблемы. І бязгрэшных я проста не ведаю.

**Сяргей Макарэвіч**

**Умовы — належныя**

У аддзеле адукацыі, спорту і турызму Баранавіцкага гарвыканкама справа 4-гадовага Расціслава на слыху.

— Усё адбывалася ў судовым парадку. Ні на адно судовае пасяджэнне бацька дзіцяці не з'яўляўся. Маці абараняла яго інтарэсы, — расказала супрацоўніца аддзела Святлана Ялінава. — Аддзел хадайнічаў, каб дзіця засталося з мамай. Яна пражывала з бацькамі. Я абследавала жыллёва-бытавыя ўмовы — яны былі належныя.

**«НН»: Чаму не перадалі Расціслава бацьку?**

— Калі чалавек хаваецца, не прыходзіць ні на адно судовае пасяджэнне, у яго ёсць нейкія страхі і асцярогі. Тым больш, што ў яго няма працы, не створаны жыллёва-бытавыя ўмовы. Прыцягваўся да адказнасці.

## Вышук



**Шукаюць бізнэсоўца**

52-гадовага Іосіфа Басько, заснавальніка шэрагу мінскіх фірм, апошні раз бачылі дома 22 кастрычніка. Прыкметы: рост 180 см, хударлявы, вочы блакітныя, валасы цёмна-русыя. Хто ведае, дзе знаходзіцца бізнэсовец, звяртайцеся ў Фрунзенскае РУУС Мінска на: (029) 392-46-47, (017) 213-08-32.



**Пацярпелі дзеці**

Мужчыну на фота падазраюць у згвалтаванні дзвюх непаўналетніх дзяўчат у сталіцы. У Партызанскім РУУС Мінска мяркуюць, што ахвяр магло быць больш. Калі хтосьці пацярпеў ад гэтага мужчыны, звяртайцеся на (017) 230-44-40.

# «Звярталася да астролагаў і экстрасэнсаў»

**Маці шукае малалетняга сына другі год.**

Святлана Рудзянкова апынулася ў сітуацыі, падобнай да апісанай у верхнім артыкуле. Былы муж забраў іх 5-гадовага сына Рамана Смолева 20 чэрвеня 2013. Пасля разводу суд пакінуў сына з мамай і вызначыў парадак і працягласць сустрэч з татам. Раз на год на пятнаццаць летніх дзён былы муж мог браць Рамана да сябе. Пасля чарговай сустрэчы Аляксандр хлопчыка не вярнуў. У ліпені 2013 завялі крымінальную справу і абодвух абвясцілі ў вышук. Але да сёння іх так і не знайшлі.

— Я думаю, што яго няма ў краіне. Былі спачатку паведамленні, што яго нібыта бачылі то ў Беларусі, то ў Расіі, то ва Украіне. Але на сёння, мяркую, Аляксандр памяняў дакументы і выехаў. У міліцыі спадзяюцца, але знайсці дзіця не могуць. Правапарушэнняў мой былы муж нарабіў столькі, што гэтага дастаткова, каб яго пасадзіць, — кажа Святлана.

Жанчына не апускае рукі і працягвае шукаць Рамана. Звярталася і да нетрадыцыйных метадаў у пошуках.

— І да астролагаў, і да экстрасэнсаў. Толькі карысці з гэтага ніякай: ніхто не назваў ні горад, ні краіну. Гаварылі такую бязглуздзіцу. Большасць жа экстрасэнсаў — несумленныя людзі, якія зарабляюць на чужым няшчасці грошы.

**СМ**



## Сцісла

**15-гадовая займалася прастытуцыяй**

У Гродне затрымалі дзяўчынупадлетка, якая за грошы прапаноўвала інтым. Кліентаў дзяўчына шукала ў сацсетках, дзе прыкрывалася дарослымі фота. А на сваёй старонцы адкрыта пісала: «Займуся сэксам. Платныя паслугі». За гадзіну прасіла $50. Аператыўнікі і злавілі яе «на жыўца»: на сустрэчу прыехала міліцыя. А пагражае ёй толькі пастаноўка на ўлік у інспекцыі па справах непаўналетніх, бо не мае 16 гадоў.

**15-гадовую згвалцілі**

Следчы камітэт распачаў крымінальную справу па факце згвалтавання 15-гадовай школьніцы. Злачынства адбылося 12 лістапада паміж 14 і 15 гадзінамі ў лесапаласе Навабеліцкага раёна Гомеля. Дзяўчынка вярталася са школы, калі на яе напалі. Гвалтаўнік не затрыманы.

**Забілі і ўтапілі**

24-гадовага мінчука знайшлі мёртвым у возеры ў Віцебскай вобласці. Высветлілася, што на забойства пайшлі яго прыяцелі. Пакванілі на яго няновы «Фальксваген». У дадатак, у хлопца пры сабе была буйная сума грошай.

**Хавала наркотыкі на могілках**

18-гадовая дзяўчына закупляла наркатычныя рэагенты ў Мінску, а ў Маладзечне на здымнай кватэры рабіла спайс. Прадавала па вядомай схеме: кліент аплачваў дозу, а пасля яму паведамлялася, у якім месцы забраць тавар. Рабіла закладкі са спайсам дзяўчына на могілках, каля мікрараёна Парашкі.

**КМ, Еўрарадыё**

Фотафакт




**Навошта Лукашэнка слухаў міністраў у навушніку?**

Падчас нарады Нацбанка і аблвыканкамаў аб рабоце эканомікі Аляксандр Лукашэнка слухаў выступоўцаў у навушніку. Такую прыладу часам выкарыстоўваюць для сінхроннага перакладу, але патрэбы ў ім не было. Найхутчэй, Лукашэнку ў навушнік паведамілі пра крушэнне вайсковага самалёта на Брэстчыне, якое адбылося ў гэты дзень.

ЯМ

# Упершыню ў гісторыі чалавецтва касмічны зонд сеў на камету

Інфармацыю пра пасадку сустрэлі **радаснымі воклічамі** і абдымкамі работнікі цэнтра кіравання палётаў у нямецкім Дармштаце.



Лабараторны модуль «Філы» (*Philae*) паспяхова сеў на паверхню каметы 67P / Чурумава — Герасіменкі. Гэта гістарычная падзея, бо адбылася такая пасадка ўпершыню.

«Гэта каласальны крок для чалавецтва», — сказаў генеральны дырэктар Еўрапейскага касмічнага агенцтва Жан-Жак Дардой.

Прырода і ўласцівасці паверхні каметы невядомыя — яна можа быць цвёрдай, а можа быць і друзлай.

Гэты касмічны аб'ект адкрылі савецкія астраномы Святлана Герасіменка і Клім Чурумаў у 1969 годзе. Цяпер яны сочаць за высадкай *Philae* на камету ў штаб-кватэры ў цэнтры кіравання палётамі ў нямецкім Кёльне.

Бі-бі-сі

# Парна-актрыса, ахвяра беларуса, вырашыла парваць са сваёй прафесіяй: «Бог пакараў мяне»

Любоў Бушуева (больш вядомая ў пэўных колах як Лола Тэйлар), якая два тыдні таму стала ахвярай гвалту, вырашыла завязаць з «фільмамі для дарослых» і ператтварыцца ў мастачку.

«Я больш не вярнуся, таму што я вырашыла скончыць мастацкую школу і стаць мастачкай, а далей адкрыць фонд для тых, хто трапіў у аналагічную сітуацыю, — для ахвяраў гвалту», — піша яна на сваёй старонцы ў сацыяльных сетках.

Бушуева выскачыла з акна, ратуючыся ад гвалтаўнікоў, адзін з якіх быў грамадзянінам Беларусі. Яна прыехала да іх на кватэру па аб'яве. Яны ж накпіліся з яе з элементамі садызму.

Любоў пераацаніла сваю ранейшую дзейнасць: «Раней я вяла няправільны лад жыцця, але, напэўна, Бог пакараў мяне і даў мне час на абдумванне майго жыцця (маю на ўвазе паўтара месяца, якія я праляжу ў пасцельным рэжыме). Мне далі знак з нябёсаў. Я проста павінна была трапіць у рай, а ён мяне не ўзяў цяпер, бо я не заслужыла, вось і пакінуў пры жыцці, каб выпраўлялася...»



ЗМ



Камертон Сяргея Ваганава

# Што было, то — будзе

Сярод тых, хто, незалежна ад даўніны, сышоў у іншы свет, ёсць людзі, фізічная адсутнасць каторых не перашкаджае адчуваць іх побач — размаўляць з імі, раіцца, вымяраць сучасныя падзеі жыцця іхназапашаным досведам, што ў тым ці іншым увасабленні прайшоў цяжкое выпрабаванне сумленнем. Найперш, зразумела, гэта бацькі. Але ці не ў роўнасці з імі — старэйшыя за цябе сябры. Дакладней тыя, хто адарыў цябе сяброўствам — ці то цягам жыцця, ці то на схіле сваіх гадоў.

«...з нязменнай — сапраўды бацькоўскай — любоўю...» — такі надпіс пакінуў мне Аляксандр Дракахруст на сваёй першай кнізе ўспамінаў «Что было, то — было», выдадзенай у 2006 годзе. У 2008-м пад той жа назвай выдадзены працяг. Па сутнасці — гэта адна кніга. Сёння яна ізноў на стале.

Сёння, калі пішу, 14 лістапада — шэсць гадоў, як Аляксандра Дракахруста няма. Але — ёсць.

...«Цяжкая, — пажартаваў ён, нібыта ўзважваючы яе, — ажно дзвесце экзэмпляраў!»

Згадалася гісторыя, што здарылася з Аляксандрам Блокам у галодным і халодным Петраградзе. Яе расказваў знакаміты ў мінулым стагоддзі літаратар і апавядальнік Іраклій Андроннікаў. У той петраградскі дзень быў страшэнны мароз, на лекцыю Блока, пра якую было шырока аб'яўлена, прыйшоў усяго адзін чалавек. Саграваючы дыханнем пальцы, Блок амаль тры гадзіны чытаў лекцыю таму чалавеку.

Сёння ў той гісторыі здзіўляе не столькі Блок, колькі чалавек, які тры гадзіны слухаў. Для чаго, ведама, трэба было быць Блокам...

Можна, безумоўна, зразумець літаратараў, якім хочацца, каб іх творы прачытала як мага больш людзей. Але ёсць літаратары, якім толькі гэта і важна.

Аднachасова з кнігай Аляксандра Дракахруста з'явіліся мемуары іншага, дастаткова вядомага, беларускага літаратара. Амаль усе яны прысвечаны ўласнай асобе. Астатнім удзельнікам гістарычнай

## Мемуары патрабуюць ад аўтара спавядальнай шчырасці, мужнасці і самаадмаўлення

драмы, што разгарнулася на мяжы стагоддзяў, адведзена роля статыстаў, а некаторыя з іх з'яўляюцца ў кнізе адное што для звядзення рахункаў. Асабліва замілоўваюць старонкі, на каторых друкуюцца ўсялякія рэзалюцыі, пастановы і факсімільныя копіі дакументаў, чыё аўтарства пазначана пячаткай уражанага генія. Ну, як не замілавацца паштоваму паведамленню пра тое, што тэлеграма, якую паслаў аўтар, дайшла да адрасата, калі адрасат жыве ў Крамлі і прозвішча ягонае — Гарбачоў!

І ўсё гэта чамусьці завецца гістарычнай праўдай.

Сёння ў тое, што прынята лічыць мемуарыстыкай, уцягнута даволі вялікая колькасць сучаснікаў. Як правіла, праз газеты, часопісы ды інтэрнэт, што, так бы мовіць, па «накладах» далёка перавышае згаданыя «дзвесце экзэмпляраў». Але чытаеш некаторыя і, акрамя цікавасці, адчуваеш сорам. Сорам за дзяльбу гістарычнага пірага, за месца ў нядзейсненым пантэоне славы, за тое ж звядзенне рахункаў, з чаго адыходзіць на другі план, калі не знікае зусім, такі неабходны ўсім нам вялікі Рахунак Гісторыі.

Між тым, мемуары, як ніякі іншы жанр, патрабуюць ад аўтара спавядальнай шчырасці, мужнасці і самаадмаўлення, у тым ліку ад спакуслівай магчымасці ўзвесці сябе каханага на гістарычны п'едэстал. І ўсё гэта абсалютна не залежыць ад колькасці экзэмпляраў.

Было б вельмі добра, каб іншыя літаратары, што сыходзяць у палітыку, ці палітыкі, што робяцца літаратарамі, заўжды бралі ў прыклад быкаўскую «Доўгую дарогу дадому», «На выспе ўспамінаў» Валянціна Тараса...

«Что было, то — было» Аляксандра Дракахруста — у гэтым шэрагу. Мо апошняя на сёння ў мастацкай беларускай мемуарыстыцы.

Чатыры эпохі адлюстраваліся ў кнізе: сталінская, з яе ГУЛАГам і выкідам у антыфашысцкую вайну, хрушчоўская «адліга» з пераходам у антысталінізм шасцідзясятнікаў, гарбачоўская перабудова, што пайшла ў ельцынскі прарыў, пуцінская рэстаўрацыя і лукашэнкаўскае ўсеўладдзе, якое засланіла гістарычную перспектыву...

Пры ўсіх адрозненнях тэмпераментаў, таленту, гістарычнага матэрыялу і жыццёвага досведу названых пісьменнікаў іх яднае не толькі фактычная прыналежнасць да аднаго пакалення, бескарыслівае сяброўства пры жыцці і духоўная блізкасць, але і бязлітаснае, найперш да самых сябе, патрабавальнае спасцігненне праўды. Не ісціны — прэтэнзіі на яе ўласцівы людзям нікчэмным і самаўлюбёным — але праўды. Праз памылкі і аблуды, праз здабыткі і страты, праз раны, смерці і боль...

«...пастарэўшы і стаўшы больш вопытнымі, — піша Аляксандр Дракахруст, — мы ўпэўніваемся: усё (ці амаль усё) ужо было, было — няхай у іншыя эпохі, у іншых умовах, на іншым узроўні, у іншых дэкарацыях...»

«И повторится все как встарь...» — калі вярнуцца да Блока.

Сумнае назіранне. Асабліва сумнае, шчымлівае і трывожнае сёння.

Але тоіцца ў ім напамін: усё, чым жыве і дыхае чалавек у розныя часы, захоўваецца не толькі памяццю, але і мужным, часам драматычным, непрымаенем хлусні.

Толькі тады пражытае і перажытае, што сышло, здавалася б, у нябыт, робіцца часткай жыцця і імкнення надалей жыць.

Яшчэ і таму — будзе.

*kamerton_41@mail.ru*

# Кіраўнік гомельскай «Талакі» Яўген Меркіс

**Ён не захацеў заставацца ў Нямеччыне і Мінску.** Ягоная жонка памерла ад раку. Ён верыць, што з Гомеля больш шанцаў зрабіць прывабны турыстычны цэнтр.



Цяперашні старшыня гомельскай «Талакі» Яўген Меркіс нарадзіўся ў адзін год з арганізацыяй, у той злавесны чарнобыльскі 1986-ы. У дзяцінстве марыў быць кіроўцам тралейбуса, палеантолагам, археолагам і прэзідэнтам. Пошукі сябе прывялі да гісторыі. Жыццё ў Нямеччыне ў дзяцінстве прымусіла задумацца: хто я, адкуль? Немец, рускі, беларус?

### Бацька гуляў у футбол з Лукашэнкам

У Літве ёсць рачулка Мяркіс, якая выцякае з Беларусі. З літоўска-латышскага памежжа паходзіць і прадзед Меркіса. Ён быў чырвоным латышскім стралком. У 30-я гады цудам пазбегнуў рэпрэсій, ледзьве не заплаціў жыццём. Выратаваў яго адзіны здымак, дзе ён быў на фоне сцяга свайго палка. На радзіму ўжо не вярнуўся, асеў у Беларусі.

Абодва дзяды за часамі апошняй вайны прасіліся на фронт, бо быў голад, а фронт быў як мара — толькі там можна было хоць трохі пад'есці. Не ўзялі, бо не было 18, як ні намагаліся.

Бацька — са Шклова. У 90-я там была традыцыя: усе тамтэйшыя хлопцы і мужчыны збіраліся на выхадных пагуляць у футбол, калі прыязджалі да бацькоў. Гуляў там актыўна і Аляксандр Лукашэнка.

У студэнцкія гады Яўген спрабаваў вучыць літоўскую мову, але не склалася. Затое з беларускай атрымалася. Выдатна ведае нямецкую і добра — англійскую. Лінгвістычныя здольнасці — ад маці-перакладчыцы. Вірус беларушчыны падхапіў на школьных алімпіядах па гісторыі.

Дзед любіў чытаць вершы, якія запомніў са школы, асабліва Якуба Коласа «Асадзі назад». Яўген шмат чытаў, у малодшых класах любіў браць на выходныя некалькі тоўстых кніг і ўжо ў панядзелак здаваў іх прачытанымі назад у бібліятэку. Чытаць навучыўся сам у пяць гадоў: з аркушам бег да тэлевізара, калі там ішлі навіны і занатоўваў па літарах словы.

У малодшых класах жыў у Нямеччыне, але пазней вярнуўся на Радзіму, таму добра ведае, што такое жыццё за мяжой.

«Я вельмі рана зразумеў, што мне за мяжой складана і некамфортна ў духоўным плане і што менавіта гэты бок, а не матэрыяльны для мяне важнейшы. З аднаго боку, я там адчуваю сябе як рыба ў вадзе. Гэткая разарванасць. Дзве душы, як у Гарэцкага, мо трохі з іншым сэнсам. На Захадзе ўсё ўжо вырашана. У нас жа ты лепш адчуваеш жыццё».

Нейкія звычкі, што склаліся там, захаваліся і зараз. Гэта павага да прыватнай прасторы чалавека, яго захапленняў, якімі б яны ні былі, неразуменне «тыкання» і фамільярнасці, любоў да заходняй музыкі.

### Мова — не фетыш

8–9 клас — алімпіяды па гісторыі. Вось там усё і панеслася. Новыя знаёмыя, настаўнікі. Нехта падсоўвае кнігу, нехта — музыку, нехта размаўляе на беларускай мове. N.R.M., «Народны альбом», «Крама». Пачынаў размаўляць на мове ў 9 класе. Была няўпэўненасць. Чытаў Караткевіча, амаль з кожнага сказа выпісваў словы і спраўджваў па слоўніку — вось гэта мова, настолькі насычаная! На беларускамоўнай плыні гістфака ў Мінску — пайшло-паехала.

«У мяне не было такога, што з панядзелка размаўляю выключна на мове! Я рацыянальна падыходзіў, разумеў, што гэта будзе цяжка, калі адразу так. Паступова пашыраў сферы ўжытку. Спачатку — у афіцыйных месцах, крамах. Потым беларусізаваў перапіску ў інтэрнэце і сацыяльных сетках, якія тады толькі нараджаліся. Потым прыйшоў той самы момант «па Трусаву» — пачалі сніцца беларускамоўныя сны».

Ён рэдка сустракаўся з негатыўнай рэакцыяй на мову. Можа, «я-рускіх» спыняе выгляд дужага дарослага мужыка з барадой — што ты яму будзеш казаць, спрачацца? Яўген упэўнены: трэба ствараць пазітыўны вобраз беларускамоўнага. Калі ты сам на пазітыве, прыязны, пасміхаешся і не занураны ў тое, што «усё-гамон-хавайся-ў-бульбу», усё кепска і страшна, не прыдзіраешся да людзей, не патрабуеш ад іх звыш таго, што яны могуць.

У Гомелі «Талака» спрабавала распачаць моўныя курсы «Мова плюс», але пакуль правялі некалькі заняткаў. Сутыкнуліся з набалелай праблемай адсутнасці пляцовак.

За апошні год у горадзе з'явіліся чатыры анты-кавярні, якія значна ажывілі мясцовы культурніцкі клімат. Але цяперашняя моладзь яшчэ не заўжды гатовая плаціць нават невялікія грошы за сапраўдны культурны адпачынак. Таму калі хочаш зладзіць мерапрыемства — сам шукай сродкі.

### Гомель — культурны, старажытны

«Талака» займаецца папулярызацыяй гісторыі, мовы і культуры роднага краю, этнаграфічнымі вандроўкамі і шмат чым іншым.

Меркіс мяркуе, што неабходнасць у краязнаўчай арганізацыі можа з часам адпасці, і гэта будзе натуральна. Але не цяпер.

«Пакуль што ў нас мноства лакунаў! Вось што было ў Гомелі тры гады пад нямецкай акупацыяй? Фактычна невядома».

А раней Гомель меў сапраўдны замак, хай і драўляны, абарончыя равы, перажыў шмат аблогаў і войнаў. Да XIII стагоддзя быў даволі паспяховым гарадком, але быў спалены мангола-татарамі. Пры аблозе ў XVII стагоддзі ў абароне ад казацкай навалы гераічна ўдзельнічаў шатландзец капітан Х'ю Мантгомеры, а таксама частка вугорскіх і нямецкіх наймітаў, крымскія татары. І сёння гэтыя факты страшна здзіўляюць гамельчукоў, якія прызвычаіліся да горада, якога нібыта і не было да Румянцавых. У цэлым лёс быў неміласэрны да Гомеля. Памежнае становішча не заўсёды было плюсам, хутчэй наадварот, горад рабіўся закладнікам такога становішча.

Унікальная драўляная спадчына Гомеля таксама чакае дапамогі «Талакі» і неабыякавых гараджанаў. І хоць на Валатаўскай дамы вынішчылі, нягледзячы на пратэсты грамадскасці, і толькі адзін дом удалося сяк-так разабраць па частках і перанесці, але варта дбаць, каб такі лёс не напаткаў іншыя нешматлікія дамы з унікальнымі драўлянымі карункамі. У ідэале трэба распрацаваць план пераносу найбольш важных з гістарычнага і мастацкага гледзішча дамоў на нейкую пляцоўку ў цэнтральнай частцы горада і стварыць там адмысловы гістарычны раён.

### Беларуская культура — надзейная абарона ад ГНР

«А вось што, калі тут нейкі Лугандон атрымаецца? Без пытанняў. Край жа беларускі, нават гаворкі адносяцца да цэнтральнабеларускіх, на аснове якіх склалася літаратурная мова. Але калі знойдуцца грошы, тут з'явіцца вельмі хутка вялікая колькасць рускіх патрыётаў. Некаторых мы ведаем — у сілавых структурах, у школах сядзяць. Хапае такіх. І гэта рэальная праблема, але наш трэці сектар і грамадства часам не замарочваецца. Лепш марыць пра Смаленск, чым кантактаваць з Гомелем. Шкада. Перспектыў хапае, трэба займацца, браць і рабіць. Праз культуру, калі няма на сённяшні дзень іншых дасяжных сфераў».

У Гомелі перарваныя традыцыі, няма тых самых «трох пакаленняў», пасля якіх становяцца канчаткова гараджанамі. Таму і гараджане маюць мала ментальных сувязяў, агульных кропак і разумення, што ўсе гомельцы нечым аб'яднаныя, а не проста жыхары населенага месца. Часам раённая самаідэнтыфікацыя адыгрывае значна большую ролю — я беліцкі, я валатаўскі, а я — з Сельмашу. Лакальныя брэнды? Не, не чулі. Хіба мэр, які сядзіць, ці крымінальная спадчына 90-х.

### Боль — неад'емная частка існавання чалавека

«Мой светапогляд базуецца на адвечных законах: не крадзі, не падманвай, у тым ліку сам сабе. У Бібліі ж усё гэта запісана. Што я магу дадаць? Я праваслаўны вернік і хаджу ў храмы, што адносяцца да Маскоўскага патрыярхата. Мне не падабаецца, калі людзі абіраюць царкву або рэлігію нават, кіруючыся камфортам, а не сэнсам: не пайду ў гэтую царкву, бо гэта руская царква, падпарадкоўваецца Кірылу; пайду вось туды, бо там можна сядзець на набажэнствах, ды і святар беларускамоўны. Людзі шукаюць камфорту, але царква і веравучэнне — гэта першаснова, а не камфорт».

Наогул, боль — неад'емная і, галоўнае, натуральная частка нашага існавання. З дзяцінства Яўген гэта добра адчуў: малодшы брат хварэў, бацькі развяліся, потым — гісторыя кахання і жыцця з Наталляй. «Сёння ў нас ёсць прага ізаляваць сябе ад гэтага — жыць мірненька, гламурненька, прыемненька, быць пазітыўненькім такім, у сацыяльных сетачках пісаць, што ў цябе ўсё ціп-топ. А калі людзі дзеляцца сваімі пакутамі, кажуць: ну што ты так дэпрэсіўна і негатыўна пішаш? Разбураеш нашу карму! Ты пачні думаць, што ў цябе ўсё добра — і ўсё будзе добра. А гэта не заўжды выключна ад гэтага залежыць».

Два гады таму Яўген страціў блізкага чалавека, жонку Наталлю. Гісторыя спаткання, кахання і жыцця з ёй кардынальна змяніла маладога чалавека. Лёс звёў іх, хоць усё было не проста так. Анкалогія — гэта не проста дыягназ, а калі хварэюць абое — гэта пакутліва высмоктвае жыццё не толькі з хворага, але і з яго блізкіх.

«Калі ездзіш у Бараўляны па крэдыт на жыццё. Калі даюць тры месяцы да наступнай праверкі... Гэткае заўжды трывожнае, але шчасце. Запомніў з тых часоў вельмі сапраўдную фразу: цяпер цяжка, а будзе яшчэ цяжэй. Таму трэба выцягваць сябе самому. Часам як той Мюнхаўзен. Бо а як па-іншаму? Трэба ставіць мэты і іх дасягаць. Вось у гэтым годзе пачаў актыўна вяртацца да жыцця. Як Міхалок, заняўся сабой, нядаўна во ўпершыню прабег 6 км за 25 хвілін. Не рэкорд, але дасягненне для мяне. Шмат чытаю, збіраюся патэнцыйна працягнуць навучанне. З добрай адукацыяй я змагу зрабіць больш для роднага краю».

**Юлія Шымкевіч, Гомель**

**Яўген Меркіс**

старшыня ГМКГА «Талака», менеджар культурніцкіх праектаў, рэгіянальны каардынатар «Будзьмы», гісторык, журналіст-фрылансер. Праваслаўны, прыхільнік заходніх каштоўнасцяў і патрыярхальнасці ў сям'і, любіць панк, рок і рэтра 50-70-х, творчасць «трушных паэтаў» — Анатоля Сыса і Васіля Стуса. Любіць Гомель. У людзях цэніць сапраўднасць. Але ідэя — галоўнае і першаснае. Дэпрэсіўны аптыміст. Выклікаюць захапленне персоны кшталту кіраўніка «Тэсла Мотарс» Ілана Маска якія сягаюць сваімі ідэямі і дзейнасцю ў далячынь, змяняюць свет, і Сямёна Сяменчанкі (батальён «Данбас»).

# Як ён папросіць самога сябе стаць прэзідэнтам?

Піша Уладзімір Падгол.



Дзіўна слухаць некаторых палітыкаў, калі яны гавораць наконт будучых выбараў прэзідэнта. Вось апошні па часе паліталагічны шэдэўр А.Лукашэнкі:
«Трэба не абрыднуць, як кажуць беларусы, перад народам. Трэба ісці на прэзідэнцкія выбары і людзям сказаць, калі мы, вядома, пойдзем на іх, калі ўсё нармальна будзе, як цяпер, каб не бегаць за людзьмі і не прасіць іх. Людзі павінны самі разумець, што ўлада не без хібаў, але дай бог, каб гэтая ўлада пагадзілася з намі і далей працаваць. Каб людзі да нас ішлі, а не мы да іх хадзілі і прасілі іх на каленях».
Перад намі ўнікальная канцэпцыя выбараў, сутнасць якой можна пераказаць і так: «Калі мы не застанемся ва ўладзе, вам, «народзец», капец! А таму прасіце як след, тады мы задаволім вашу просьбу».
І тут жа Радзькоў падаспеў з выказваннем, што калі б не Лукашэнка, тады б у нас была вайна.
Калі я слухаў гэтыя заявы, мяне не пакідала пачуцце, што хутка пачую заклік ад кіраўніка РПЦ: «Лукашэнку трэба ўзвесці ў ранг святога, за абарону беларусаў ад вайны!»
Я ніколькі не перабольшваю, бо заклік галасаваць за Лукашэнку мітрапаліт Павел агучыў даўно: «Часам нашым парафіянам задаю пытанне: а вы ведаеце, хто такі Аляксандар Лукашэнка? Ведаем, кажуць, гэта наш прэзідэнт. Я ў такіх выпадках заўсёды кажу: мы з вамі павінны не толькі за яго галасаваць, але яшчэ і маліцца, каб Бог яго прымудраў, каб дараваў яму моцнае здароўе і сілу духу, каб і ў будучыні наша краіна квітнела. Каб народ наш жыў шчасна і ў дастатку».
Мітрапаліт не нагадае сваёй пастве, што Лукашэнка не выканаў сваіх абяцанняў з Усенароднага сходу 2010 года аб падвышэнні заробкаў. Што ягоныя «найлепшыя» кадры правалілі мадэрнізацыю і раскралі народныя грошы. Што гэты рак задам падаецца ў Еўразійскі Саюз, а перадам балабоніць народу пра незалежнасць. Не, гэты рак, які толькі лёгка пашчыпвае карупцыянераў, паўстае перад народам як сапраўдная рыба, ды яшчэ гаворачая! А нашы палітычныя рыбы застаюцца нямымі для народа.
Замест таго Уладар нашай будучыні сам сябе просіць пайсці ў прэзідэнты. Вось гэта твор, куды лепшы за «Вайну і мір».

## «І што тут такога? Раздавайце беларускія»

Сёння, 12 лістапада, стаяў на аўтамабілі на скрыжаванні каля гіпермаркета «Карона» ў Віцебску. А паміж машынамі хадзіў мужчына і раздаваў сцяжкі, чырвоназялёныя і расійскія. Я апусціў шкло і, калі мужчына падышоў, выгукнуў: «Жыве Беларусь!»
І сказаў, што зараз здам яго ў міліцыю. Той пайшоў на трамвайны прыпынак, а я патэлефанаваў на 102. Там мне адказалі, што праводзілі праверку гэтага чалавека: нічога крымінальнага за ім няма. Калі я запытаў, ці не турбуе праваахоўнікаў тое, што сярод насельніцтва немаведама дзеля чаго распаўсюджваюцца сцягі замежнай дзяржавы, мне адказалі:
«И что тут такого?! Идите раздавайте белорусские».
Цікава, а якая б была рэакцыя, калі б раздавалі сцягі Украіны ці Еўразвяза?

**Чытач**

# Колькі можна гвалціць людзей?

Так ужо склалася, што з усіх каналаў беларускага тэлебачання па інфармацыйных перадачах аддаю перавагу каналу СТБ. Звычайна гляджу ў 19:30 «24 гадзіны». Стараюся паглядзець і «Міншчыну». Але яе трансьлююць у нязручны для мяне час. Таму і бачу гэту перадачу зрэдку.
У свой час звярнуў увагу на дыктара «Міншчыны» Сяргея Манько, які гаварыў крыху гугнява, але вымаўленне ў яго было натуральным, мяккім. На нейкі час ён знік з эфіру. Потым з'явіўся зноў, ужо ў якасці рэпарцёра. Цяпер ён гаварыў толькі па-руску, што, натуральна, здзівіла. Размовы новаспечанага рэпарцёра з людзьмі, якія яму адказвалі па-беларуску, дакладней, на трасянцы, непрыемна кранулі. Відаць, таму, што перадачы «Міншчыны» бачу зрэдку, а рэпартажы ў іх сп. Манько адносна кароткія, тая непрыемнасць крыху забылася. Аднак 5 лістапада давялося паглядзець перадачу «Цэнтральны рэгіён», якая была прысвечана найлепшаму паштальёну Міншчыны сёлета Дануце Іванаўне з вёскі Морач Клецкага раёна. Вядоўца перадачы, ужо знаёмы сп. Манько, наважыўся адшукаць крыніцы поспеху гэтай паштаркі шляхам асвятлення яе работы на працягу цэлага працоўнага дня, як у межах пошты, так і па-за яе прасторы дзейнасці.
Было бачна, што Данута Іванаўна ўсхваляваная і напружаная, што кабеце няёмка, падобнае становішча натуральнае. І зразумела: не кожны дзень трапляеш «у скрыню», дый інтэрв'юеру трэба неяк «адпавядаць». Яна старанна падбірала словы, а атрымлівалася як заўсёды — на трасянцы. Тут сп. Манько варта было разрадзіць напружанасць, падтрымаць суразмоўцу ды загаварыць проста па-беларуску (пэўна, яшчэ не забыў свае дыктарскія звычкі). Так зрабіў бы кожны добры журналіст. Дык не, сп. Манько як быццам не хацеў звяртаць увагі на няёмкае становішча паштаркі і працягваў дапытваць жанчыну па-руску. Потым ён вёў размову з нейкай рускай, якая нейкім чынам трапіла ў тую вёску, а затым — з загадчыцай пошты, якая таксама прадэманстравала сваё веданне рускай мовы. У абедзвюх апошніх размовах усё атрымалася больш-менш натуральна.
На гэтым высвятленне паштовых праблемаў і сувязяў у вёсцы Морач не скончылася. Сп. Манько, несумненна, для лепшага вырашэння пастаўленай мэты, працягнуў допыты лаўрэата года Мінщчыны і жыхароў вёскі. Яны, канешне ж, стараліся «адпавядаць», адказваючы сп. Манько на трасянцы. А ён па-ранейшаму паводзіў сябе сярод іх іншаземцам.
Амаль палову гадзіны працягваўся ў эфіры гэты рэпартаж, ад якога засталося цяжкае ўражанне. Як можна так непаважліва ставіцца да людзей?
Каму спатрэбілася падобная дэманстрацыя рускасці ў беларускім асяроддзі, ды яшчэ ў перадачы, прызначанай для тых жа беларусаў? З якой мэтай гэта так зацята робіцца? Няўжо дзеля таго, каб падказаць мясцовым жыхарам, якая мова больш «прыстойная і правільная» і якой ім жадана карыстацца?
Сумняваюся, што гэта ініцыятыва самога сп. Манько. Хутчэй за ўсё, яму так загадала кіраўніцтва тэлеканала. Колькі яшчэ часу яно будзе навязваць нам свой моўны густ?

**Генадзь Шэршань, Мінск**

**Водгук**

## « Топ-10 самых прыгожых і непрыгожых катэджаў чыноўнікаў у Драздах» (№41)

Няважна, прыгожыя яны ці не. Для мільёнаў беларусаў гэта ўсё роўна « палацы». Але яны належаць вярхам сённяшняй улады, якая кіруе краінай апошнія 20 гадоў.
Так, у нас мірная, спакойная краіна. Але чаму стала столькі сірот пры жывых бацьках? Чаму на будаўніцтва дзіцячага хоспіса просяць ахвяраванні з экранаў тэлевізараў, а на будаўніцтва спецбальніцы ў Ждановічах грошы з бюджэту знаходзяцца? Чаму мала нараджаецца сёння дзяцей і колькасць беларусаў змяншаецца?
Калі лозунг «Усё лепшае — дзецям!» не чужы ўладальнікам катэджаў у Драздах, то чаму б ім не аддаць свае «палацы» дзецям? Зладзіць «дзіцячую вёску», размясціць у ёй шматдзетныя сем'і, міні-інтэрнаты і дзіцячыя дамы сямейнага тыпу. Добра абсталяваная новая медустанова побач прыйшлася б дарэчы. Засталося б пабудаваць толькі школу са спартыўна-аздараўленчым комплексам. Тады людзі, можа быць, паверылі б у тое, што цяперашнюю ўладу сапраўды турбуе будучыня краіны і яна робіць усё для яе росквіту?

**Аксана Вадзімаўна, Мінск**

**Здароўе**

## Менш вяндлінаў, менш сасісак, менш газіровак!

Калі людзі не зменяць харчовых звычак, у бліжэйшыя 20 гадоў рэзка ўзрасце колькасць выпадкаў раку кішэчніка ў маладых.

Як паказалі даследаванні, шакалад, пірожныя і газіроўка павышаюць рызыку раку. Таксама небяспечныя мясныя прадукты з кансервантамі — кілбасы, сасіскі, вяндліны.

Найпершы сімптом раку кішэчніка — кроў у стуле і болі. Гэта цяжкае захворванне, ад якога трэба берагчыся.

**СГ**

**Чытачы падказалі навіну**

## У Бабруйску патрабуюць наладзіць даезд да паліклінікі

У Бабруйску актывісты апазіцыі распачалі гарадскую кампанію «Шлях да здароўя».
Праблема ў тым, што да гарадской паліклінікі № 1 і суседняй бальніцы цяжка дабірацца старым. Будынкі аддаленыя ад прыпынкаў грамадскага транспарту, і пацыенты павінны прайсці значную адлегласць пешшу. Арганізатары кампаніі просяць улады правесці маршруты грамадскага транспарту такім чынам, каб наведвальнікам бальніцы і паліклінікі заставалася мінімальная адлегласць пешшу.
«Людзі ахвотна ставяць подпісы пад зваротам да ўладаў», — адзначыла каардынатарка хрысціянскіх дэмакратаў у Бабруйску Таісія Кабанчук.

**Фотафакт**



**Зміцер Дашкевіч падарыў «Нашай Ніве» кацяня**

На першыя занятке курсаў «Ды-джэй Адраджэння» Зміцер Дашкевіч прынёс кацяня і прапанаваў аддаць яго найлепшаму выпускніку. Усе пасмяяліся, пафатаграфаваліся з жывёлінкай, але да сябе ніхто не ўзяў. У выніку яго забрала апаратарка «Нашай Нівы».

У кацяняці пакуль няма імя, але чытачы NN.BY прапанавалі іх аж сто! Гаспадыня цяпер выбірае.

**Фотажаба**




**На саміце G20 Пуцін пазіраваў з каалай. Гэтае фота выклікала шматлікія карыкатуры.**

# Трэнеры аб звальненні Ганчарэнкі: «Яны хочуць, каб скакалі пад іх дудку»

13 лістапада краснадарская «Кубань» **са скандалам** адправіла ў адстаўку беларускага трэнера Віктара Ганчарэнку.

Прычынай такога ўчынку называўся «нізкі ўзровень дысцыпліны ўнутры каманды». Пры гэтым на змену аднаму нашаму трэнеру было выпрашана запрасіць іншага — Леаніда Кучука, які перад гэтым ужо ўзначальваў краснадарскі клуб.

Пакуль Віктар Ганчарэнка шукае новае месца працы, беларускі футбольны люд выказвае разнастайныя здагадкі наконт таго, што паслужыла прычынай адстаўкі беларускага спецыяліста. Прычын можа быць некалькі.

### 1. Ганчарэнка не сышоўся ў поглядах з кіраўніцтвам.

Сярод расійскага футбольнага грамадства даўно пануе думка, што літаральна ўсімі справамі ў краснадарскім клубе кіруе спартыўны дырэктар Сяргей Даронченка. Кажуць, што характар у функцыянера той яшчэ. Магчыма, пазіцыя Ганчарэнкі па камплектацыі складу каманды, а таксама метадах кіравання ёй сапраўды разышлася з пунктам гледжання функцыянера.

### 2. Меў месца канфлікт з легіянерамі каманды.

Раней у прэсе з'яўляліся паведамленні аб тым, што Ганчарэнка не вельмі ладзіць з адыёзным балгарскім легіянерам каманды Івелінам Попавым. Варта падкрэсліць, што пасля адстаўкі Ганчарэнкі футбалістам «Кубані» было забаронена даваць каментары прэсе наконт дадзенай сітуацыі. Але гэтая версія не выглядае вельмі праўдзівай. Папершае, калі ўзнікаюць падобныя канфлікты, яны неадкладна адбіваюцца на выніках каманды. А тут вынік быў — пятае месца з адным пунктам адставання ад зоны Лігі чэмпіёнаў.

### 3. Вызваленне месца для Кучука.

Усё вельмі проста — Кучук, які ў свой час на пасадзе галоўнага трэнера «Кубані» не пацярпеў ніводнай паразы і пакінуў вельмі добрыя ўспаміны. Кіраўніцтва краснадарскага клуба вырашыла аператыўна перахапіць трэнера, які можа даваць вынікі. Ну і што, што для гэтага прыйдзецца звольніць перспектыўнага спецыяліста, які падняў каманду на пятае месца ў чэмпіянаце і мае яшчэ чатыры гады кантракта? Гэта Расія, тут ужо няма чаму здзіўляцца.



**Заўзятары «Кубані» за Ганчарэнку (у цэнтры) гарой. Фота зробленае пасля звальнення трэнера.**

«Наша Ніва» паразмаўляла з беларускімі спецыялістамі ў футбольнай галіне і высветліла, што яны думаюць аб гэтым факце і падобных сітуацыях увогуле.

### Андрэй Скарабагацька (трэнер): «Матывацыя звальнення проста абсурдная»

Мяне вельмі здзівіла адстаўка Віктара Ганчарэнкі. Тая матывацыя яго звальнення, якая была пададзеная ў прэсе, проста абсурдная. У маёй практыцы падобныя выпадкі здараліся. Мяне ж два разы ў адстаўку адпраўлялі. Што адбываецца ў «Кубані», мне ўвогуле незразумела. Каманда ідзе ў верхняй частцы турнірнай табліцы, прэтэндуе на выкананне пэўных задач, а трэнеру не даюць скончыць нават першае кола. Я ведаю, калі ёсць праблемы ў калектыве, дык выніку няма. А гледзячы па турнірнай табліцы, такога не можа быць, каб была дрэнная дысцыпліна. Такія дзеянні кіраўніцтва адмоўна адбіваюцца на іміджы клуба».

### Уладзімір Геваркян (трэнер): «Гэта катастрофа»

Адстаўка Ганчарэнкі — гэта, канечне, катастрофа. Так людзі (я нават скажу: не людзі, а далёкія ад спорту чыноўнікі) абыходзяцца са спецыялістамі. Я не зразумеў, што ім не падабаецца. Яны хочуць, каб скакалі пад іх дудку, здаецца. Так людзі не робяць. У яго кантракт, ёсць нармальны вынік. Там было напісана, што патрэбна займаць першае месца пасля нейкай колькасці тураў? Такога няма. Згулялі яшчэ няпоўны першае кола, ідуць на пятым месцы, маюць толькі адну паразу, а трэнера здымаюць: «Мякка паводзіць сябе з гульцамі». Вам патрэбен вынік? Ён можа ўвогуле не размаўляць з футбалістамі ці крычаць на іх. Гэта ягоная прэрагатыва, як сябе паводзіць і што рабіць. Гэта яшчэ раз паказвае, што атрымліваецца, калі кіруюць далёкія ад спорту людзі.

Летась яны не маглі нарадавацца з Ганчарэнкі, як і з Кучука, дарэчы: «Ён будзе працаваць столькі, колькі захоча», «мы да яго прыглядаліся не адзін год» і гэтак далей. Дык адказвайце за свае словы. Нават шкада яго па-людску. Трэнерская доля такая. У такім выпадку трэба забіраць кампенсацыю і сыходзіць. І вельмі правільна, што ён не маўчыць, а выказвае свой пункт гледжання. Такіх людзей трэба выводзіць на чыстую ваду. А то хто кіруе расійскім футболам? Хаця і ў нас тое ж самае.

### Валерый Стральцоў (трэнер, фунцыянер): «Нашто супрацьпастаўляць Ганчарэнку і Кучука?»

Адстаўка Ганчарэнкі для мяне стала вялікім здзіўленнем. Што я магу сказаць? Мне цяжка зразумець матывы такіх дзеянняў кіраўніцтва краснадарскага клуба. Здаецца, і добры вынік на прамежкавым этапе ёсць, і цікавая, сімпатычная каманда, і добры трэнер. Цалкам незразумела. Не збіраюся ацэньваць прызначэнне Леаніда Кучука галоўным трэнерам «Кубані», бо я не маю на гэта права. Нашто супрацьпастаўляць аднаго іншаму? Ні адзін, ні другі не вінаваты ў тым, што кагось звальняюць, а кагось бяруць. Як сам футбол непрадказальны, дык і дзеянні ў футболе і каляфутболе непрадказальныя. Што датычыцца агульнага іміджу «Кубані» пасля такіх здарэнняў, дык гэта права і справы клуба.

### Анатоль Байдачны (трэнер): «А пры чым тут увогуле Кучук?»

Тут толькі сам Ганчарэнка можа адказаць. Ды ў нас кожны дзень звальняюць трэнераў — рознае здараецца. Проста мы ж не ведаем, якія там насамрэч склаліся адносіны, якая была камунікацыя. Я не валодаю такой інфармацыяй, таму не магу даць ацэнак. Кучук? Якое дачыненне ён мае да Ганчарэнкі? Яны што, сябры, я не разумею? Прызначаць яго трэнерам — значыць, ён будзе трэнерам. Вось такое жыццё. Я думаю, што нічога дзіўнага тут не будзе.

Што датычыцца самога факта звальнення Ганчарэнкі, то я задам вам таксама пытанне: а калі Фабіа Капэла пасля чэмпіянства Іспаніі з мадрыдскім «Рэалам» звольнілі, гэта што было? Сказалі, што заўзятарам не падабаецца якасць гульні каманды.

### Сяргей Юран: «Рукі Кучуку больш не падам».

У той жа момант былы футбаліст зборнай Расіі Сяргей Юран катэгарычна выказаўся наконт прызначэння Леаніда Кучука на пасаду галоўнага трэнера «Кубані» ў інтэрв'ю «Савецкаму спорту»: «А як не пагарджаць чалавекам, калі ён ідзе на «жывое» месца? Я б проста не змог узяцца за такую працу. Ганчарэнка рэальна дамагаўся поспеху, каманда ідзе сярод лідараў. Яго звальняюць з дзіўным абгрунтаваннем «не хапае жорсткасці» — і ты ідзеш на гэта месца? Няправільна гэта. А калі ўспомніць, як «Кубань» і Кучук рассталіся ў мінулым годзе, дык вяртацца ў гэты клуб — проста сябе не паважаць. Асабіста я гэтага чалавека не магу паважаць. Рукі больш не падам. Існуе трэнерская этыка, паводле якой кожны трэнер павінен паважаць іншага. Кучук зрабіў не па-трэнерску, не па-мужчынску. Па сутнасці, ён абразіў усіх трэнераў».

**Зміцер Міцкевіч**

## Сцісла

### Хацкевіч ці Стоічкаў могуць узначаліць зборную

Легендарны беларускі гулец, а цяпер трэнер Аляксандр Хацкевіч, а таксама балгарская легенда футбола Хрыста Стоічкаў з'яўляюцца галоўнымі кандыдатамі на пасаду галоўнага трэнера беларускай нацыянальнай зборнай па футболе.

### Уладзімір Клічко абараніў тытул чэмпіёна свету

У нядзелю ў нямецкім Гамбургу прайшоў бой за тытул чэмпіёна свету ў суперцяжкай вагавай катэгорыі паміж украінцам Уладзімірам Клічко і балгарынам Кубратам Пулевым. Клічко адправіў праціўніка ў накаўт левым бакавым у пятым раўндзе. Такім чынам, Уладзімір Клічко ў чарговы раз абараніў свой тытул. «Сёння цяжкія часы ва Украіне, таму я хачу прысвяціць сваю перамогу тым, хто змагаецца за нашу краіну,» — сказаў баксёр пасля бою.

### Мінскае «Дынама» пацярпела пяць паразаў запар

Даволі няўдала праходзіць выязная серыя хакейнага мінскага «Дынама» ў рамках рэгулярнага чэмпіянату КХЛ. Так, 17 лістапада «зубры» саступілі піцерскаму СКА (2:3). Такім чынам, беларуская каманда ўпершыню ў сезоне прайграла 5 гульняў запар. Да гэтага мінчукі цярпелі паразы ад «Амура» (2:4), «Адмірала» (3:6), «Ёкерыта» (1:3) і рыжскага «Дынама» (1:4). Пакуль у гэтай выязной серыі не было здабыта ніводнай перамогі.

### Расійскі баец ажэніцца ў СІЗА

Расійскі баец змешаных адзінаборстваў Аляксандр Емяльяненка, вядомы скандальнымі выхадкамі, а таксама сістэматычным парушэннем спартовага рэжыму і зрывам сваіх баёў, вырашыў ажаніцца. Цікава тое, што з мая спартовец знаходзіцца пад арыштам — Следчы камітэт Расіі абвінавачвае яго ў згвалтаванні хатняй работніцы, а таксама крадзяжы яе пашпарта.

**ЗМ**

# На моўную сустрэчу «Мова Tut» прыйшло сто чалавек



12 лістапада ў Мінску ў офісе партала Tut.by пачаў сезон новы беларускамоўны праект «Мова Tut». Арганізатары кажуць, што гэта не чарговыя моўныя курсы, а хутчэй клуб.

«Гэта прастора для сустрэчы людзей, якія хочуць папрактыкавацца ў беларускай мове, але саромеюцца размаўляць на ёй у звычайным жыцці», — тлумачыць каардынатарка праекта Алена Шарамет-Андрэева. Першая частка сустрэчы — гэта ўрок, яго будуць весці выкладчыкі філалагічнага факультэта БДУ. Другая — размова з мастаком, культуразнаўцам альбо гісторыкам.

Яшчэ адна асаблівасць: арганізатары прапануюць браць з сабой дзетак, яны будуць глядзець мульцікі па-беларуску ў асобным пакоі.

Праходзяць сустрэчы на праспекце Дзяржынскага, 57 (9 паверх) раз на два тыдні, у серады ўвечары. Наступныя заняткі — 26 лістапада.

**Настасся Храловіч, фота аўтаркі**

# «Жанчыны заўсёды рулілі Беларуссю»

Аматары статыстыкі здагадаюцца, пра што перадача з назвай «54%», якая выходзіць на тэлеканале «Белсат». Менавіта столькі ў Беларусі, паводле перапісу, жанчын.

Жаночы погляд на войска. Як прыгожа апранацца ў Беларусі. Ці лёгкая справа — нараджаць, ці няправільна быць не замужам і калі кабета становіцца старой бабай. Натуральна, пра асаблоду ў жыцці жанчыны... Гэтым ды іншым тэмам прысвечаная перадача. Пра тое, як жывецца гендарнай большасці, ці сапраўды грамадства і дзяржава няроўна дзеляць паміж жанчынамі і мужчынамі, мы паразмаўлялі з аўтаркамі і вядоўцамі перадачы «54%» Алінай Коўшык і Кацярынай Барушкай.

«У перадачы хацелася не развязваць праблемы (бо гэта часцяком немагчыма), не прапаноўваць нейкі панацэйны адказ, а найперш ставіць пытанні і даваць нагоду падумаць», — кажа Аліна Коўшык.

Кацярына Барушка зазначае, што праграма не мае на мэце паказаць мужчынам, што яны ў нечым вінаватыя: «Мэта — развіваць уражлівасць беларусаў да меркавання іншых. У нас усіх паўсюль стрыгуць пад адзін грэбень, усім мусіць усё пасаваць. А кожны ж мае свае адметныя праблемы. Нам хочацца прыцягнуць увагу да гэтай разнастайнасці. І пачаць з самага відавочнага адрознення — полу.

Толькі калі мы навучымся прыслухоўвацца да меркаванняў усяго грамадства, а не толькі да праўладнага або апазіцыйнага мэйнстрыму, тады насамрэч будзем заслугоўваць прэзідэнта іншага, чым Лукашэнка».

Перадача «54%» — і дарадча-прыкладная, і светапогляднапраблемная. Ці маюць беларускія жанчыны час на здзіўленні пасярод побытавых і працоўных завіханняў?

«Гэта і было нашай задачай — перадусім падштурхнуць да мыслення, нягледзячы на нашую занятасць, зацятанасць і часам безвыходнасць. Пабачыць нешта большае, чым штодзённасць, і заўважыць у гэтай штодзённасці новыя колеры», — гаворыць Аліна.

**Перадачу «54%»**

можна глядзець у эфіры «Белсата» кожную другую сераду месяца у 22:05, а таксама на сайце тэлеканала belsat.eu.

А ці мяняюцца неяк роля і статус жанчын у Беларусі апошнім часам?

«Нас 54%. Жанчыны заўсёды рулілі Беларуссю, але іх роля ніколі не падкрэслівалася, а наадварот — заніжалася, — перакананая Аліна Коўшык. — Цяпер мы вельмі актыўныя і прадуктыўныя, і хочацца, каб мы самі ведалі найперш нашую вартасць. Каб маглі жыць уласным жыццём, а не дзейнічаць паводле стэрэатыпаў».

### «Фрыгідныя» і «мужчыны-анучы»

Кацярына Барушка лічыць, што ў беларусак ёсць цудоўная магчымасць карыстацца заходнімі дасягненнямі фемінізму і пазбягаць тамтэйшых памылак: «Напрыклад, у 70-х у Штатах жанчыны марылі працаваць на роўных з мужчынамі. Але хатняя гаспадарка як была суцэльна іхняй адказнасцю, так і засталася. Так жанчыны атрымалі падвойную нагрузку.

Дый пачаўся дэструктыўны ацэначны дыскурс: хто насамрэч паспяховая жанчына — тая, што прысвячае сябе дзецям, ці тая, якая мае высокую пасаду? Сапраўдная роўнасць — не ацэнка жанчынаў па мужчынскіх крытэрах. Паспяховасць жанчыны можа ацаніць толькі яна сама».

Вядучая «54%» перакананая: «Варта не проста рабіць усё, як мужчыны, а дамагацца пашаны да сваіх заняткаў. Хай гэта будзе гадаванне дзяцей (будучыні нацыі) ці дабрачыннасць (праца на карысць грамадства).

Плённае і справядлівае тое грамадства, у якім абавязкі падзеленыя па дамоўленасці і з увагай да патрэбаў, здольнасцяў і жаданняў максімальна большай колькасці грамадзянаў. Ды мы б проста развіваліся куды больш гарманічна, каб умелі эфектыўна выкарыстоўваць жаночы патэнцыял. Напрыклад, гнуткі графік працы, калі ўлічваецца вынік, а не колькасць гадзінаў за «кампом». Пакуль большасць хатніх абавязкаў і так на жанчынах, такі падыход дазволіў бы большай колькасці з нас рабіць інтэлектуальны ўнёсак у развіццё грамадства, спрыяныя ці да фінансавага дабрабыту, дый проста весці больш разнастайнае жыццё. Таму не магу зразумець тых беларускіх палітыкаў, якія нібы і імкнуцца да дэмакратыі, але на практыцы не жадаюць зважаць на адметныя патрэбы 54% беларускага грамадства».

Кацярыне Барушцы наогул абрыдла, па яе словах, вычварэнскае разуменне фемінізму: «Усе гэтыя «незадаволеныя жыццём», «фрыгідныя», «імкнуцца стаць мужыкамі», «бабы на сябе цягнуць» і іншая сексісцкая атрыбутыка.

Фемінізм — гэта рух, які змагаецца за роўныя правы мужчын і жанчын. Ключавое слова — роўныя і правы. Роўныя — каб не стварыць ані жанчынам, ані мужчынам нейкія выключныя ўмовы. Каб мужчыны мелі права на, скажам, такі ж адпачынак па доглядзе за дзіцем. Або тыя, хто выбраў займацца домам, а не кар'ерай, жылі вольнымі ад стыгматызацыі «мужчыны-анучы». Роўнасць таксама азначае змену стаўлення да мужчынаў як абавязаных паставіць жанчынам футра, золата ці махіта.

Людзі пагарджаюць фемінізмам або ад неразумення, што гэта такое, або з-за інфантыльнасці.

Так, часта сустракаю актыўных, паспяховых, ініцыятыўных жанчын, якія жывуць жыццём ідэальна феміністычным, але чамусьці папярэджваюць, што не феміністкі, бо любяць сукенкі і клапаціцца пра дзяцей. Даражэнькія! Гэта нічым фемінізму не супярэчыць. Густ у вопратцы і жаданне гадаваць дзяцей — гэта менавіта тое права на выбар, за якое феміністкі і змагаюцца».

### Дык якія і хто яны — узорныя беларускі?

«Узоры — яны па-над гендарам і па-над нацыянальнасцю. Узоры — тыя, хто ставіцца да іншых з пашанай, не навязваюць нейкія абстрактныя ролі і чаканні. Узоры — тыя, хто мае адвагу быць сабой і працуе на карысць грамадства», — лічыць Кацярына Барушка. І прыводзіць такі прыклад: «Мэрыл Фрэнк — амерыканская палітык і дыпламатка. Яе карані — на Гродзеншчыне. Яна 10 год была губернатарам гарадка ў штаце Нью-Джэрсі, а перад гэтым 12 год займалася выключна гадаваннем сваіх траіх дзетак. Яна вырашыла заняцца палітыкай, бо хацела змяніць якасць адукацыі ў сваім горадзе. Яна перамагла ў колішняга губернатара, бо мела фантастычны сацыяльны капітал, вельмі жаноцкі: часта бывала на бацькоўскіх сходах, вазіла дзяцей на футбольныя гульні і дні народзінаў, дзе і пазнаёмілася з будучымі выбаршчыкамі».

«Безумоўна, нам ёсць кім ганарыцца, хоць жанчыны не так заўважныя ў публічнай прасторы. Важна быць найлепшай у тым, што ты робіш, нават калі гэта нешта сціплае. Узор — гэта жанчыны, якія не баяцца ісці насуперак стэрэатыпам. Пра такіх мы ў «54%» і распавядаем», — кажа Аліна Коўшык.



**Андрэй Цяплоў**

## Сцісла

### Усе квіткі на канцэрт «Акіяна Эльзы» ў Мінску прададзеныя

Канцэрт пройдзе ў «Мінск-Арэне» 21 лістапада. Ён адбываецца ў межах вялікага тура ўкраінскага гурту, які ўключае Лондан, Барселону, Рым, Парыж.

### Brutto выпусцілі сінгл «Adidas»

«Адыдас» — сакральнае слова сучаснасці, — разважае лідар Brutto Сяргей Міхалок. Ідэі «Адыдаса» Міхалок выводзіць з такіх плыняў, як «дадаізм» і «сітуацыянізм». Аднак калі дадаісты былі багемай, а сітуацыянізм быў ідэалогіяй радыкальнай студэнцкай моладзі, то «Адыдас» па сваёй эстэтыцы разлічаны хутчэй на братву і «рэальных пацаноў». У песні шмат мацюкоў.

### Нацбанк выпусціў манету памяці гетмана Астрожскага

Срэбная памятная манета «Канстанцін Астрожскі» з серыі «Умацаванне і абарона дзяржавы» наміналам 20 рублёў выйшла тыражом 2000 штук. Аналагічная медна-нікелевая манета наміналам 1 рубель выпушчана тыражом 3000 штук, паведамляе прэс-служба Нацбанка. Астрожскі стаяў на чале войска Вялікага Княства, што ў 1514 годзе разграміла маскоўскія войскі ў бітве пад Оршай.

### Дзіцячае «Еўрабачанне»: беларуска — 7-я

14-гадовы італьянскі выканаўца Вінчэнца Канцьела выйграў конкурс дзіцячага «Еўрабачання-2014», што прайшоў 15 лістапада на Мальце. Вінчэнца з баладай *Tu primo grande amore* набраў 159 балаў. Беларуска Надзея Місякова з песняй «Сокал» на беларускай мове заняла 7-е месца з 71 балам. Беларусь двойчы перамагала на конкурсе: у 2005 і 2007 г.

### Выйшла кніга Таццяны Барысік

Зборнік апавяданняў адной з найлепшых сучасных пісьменніц Таццяны Барысік «Жанчына і леапард» пабачыў свет у выдавецтве «Кнігазбор». Большасць сюжэтаў прысвечаная жыццю беларускай правінцыі.

### «Прыгоды Шэрлака Холмса» выдалі па-беларуску

«Прыгоды Шэрлака Холмса» — першы зборнік апавяданняў пра знакамітага дэтэктыва, надрукаваны ў 1892. У ім 12 апавяданняў, сярод якіх «Скандал у Багеміі», «Стракатая стужка». Кнігу англійскага пісьменніка Артура Конан-Дойла пераклалі слаўныя перакладчыкі новага пакалення — Ганна Янкута, Кацярына Мацiеўская, Алена Казлова, Аляксей Арцёмаў, Алена Пятровіч.

**Алесь Жарскі, СГ**

**ФУТБОЛ**

**БАТЭ — «Порту»**

**25 лістапада на «Барысаў-Арэне»** адбудзецца матч групавога раўнда Лігі чэмпіёнаў паміж БАТЭ і партугальскім «Порту». Пачатак а 20. Білеты — ад 150 да 600 тысяч рублёў.

**БАСКЕТБОЛ**

**«Цмокі» — «Ушак»**

**26 лістапада на «Мінск-Арэне»** мінская каманда будзе прымаць турэцкі «Ушак». Матч пройдзе ў рамках «Еўрачэленджу». Пачатак а 19.

**ХАКЕЙ**

**Супраць «Сочы»**

**24 лістапада мінскае «Дынама» будзе прымаць клуб «Сочы»** — аўтсайдара дывізіёна. Матч пройдзе ў рамках рэгулярнага чэмпіянату КХЛ. Пачатак а 19. «Мінск-Арэна».

**КАНЦЭРТЫ**

**Паліна Рэспубліка**

**25 лістапада ў клубе «Графіці» (зав.Калініна, 16)** — канцэрт Паліны Рэспублікі. Пачатак а 19.

**Akute ў Оршы**

**22 лістапада ў Оршы, у Гарадскім цэнтры культуры (Леніна, 31)**, выступіць гурт Akute. Пачатак а 19.

**J:морс**

**22 лістапада ў клубе Prime Hall (пр-т Пераможцаў, 65)** гурт J:морс адсвяткуе сваё 15-годдзе вялікім сольным канцэртам.

**Горан Брэгавіч**

**23 лістапада а 19 у Палацы Рэспублікі (пл. Кастрычніцкая, 1)** выступае Горан Брэгавіч.

**«Ленінград»**

**23 лістапада ў Палацы спорту (пр-т Пераможцаў, 4)** — канцэрт гурту «Ленінград». Пачатак а 19.

**Н.О.М. і «Нейра Дзюбель»**

**27 лістапада ў клубе Re:Public (пр-т Прытыцкага, 62)** — сумесны выступ гуртоў Н.О.М. і «Нейра Дзюбель». Пачатак а 19.

**ІМПРЭЗЫ**

**«Невядомы Ракаў»**

**22 лістапада ў Ракаўскім цэнтры народнай творчасці (Чырвонаармейская, 1)** адбудзецца прэзентацыя кнігі «Невядомы Ракаў: могілкі пад базыльянскім крыжам» і канцэрт гурту «Князь Мышкін», Рамана Яраша і Віктара Сямашкі. Уваход вольны. Усім прысутным — кніга ў падарунак. Пачатак а 16.

**«Палігон»**

**20 лістапада ў мінскай кнігарні «ЛогвінаЎ» (пр-т Незалежнасці, 37А)** адбудзецца прэзентацыя першай кнігі «Полигон» Андрэя Лазуткіна. Будуць выступаць Альгерд Бахарэвіч, Людміла Рублеўская, Антон Рудак, Юлія Цімафеева. Пачатак а 19.

**Арганная музыка ў Гервятах**

**Канцэрт арганнай музыкі пачнецца а 16 у касцёле Святой Тройцы ў Гервятах (Астравецкі раён)**. Канцэрт рэквіяльнай тэматыкі, у гонар памяці продкаў. На ім выступяць: Тацццяна Глазунова, салістка Нацыянальнага акадэмічнага аркестра сімфанічнай і эстраднай музыкі; Аляксандр Музыкантаў, саліст Беларускай дзяржаўнай філармоніі; Андрэй Міхневіч, арганіст касцёла Святой Тройцы ў Гервятах, магістр музыкалогіі, бакалаўр культуры і гісторыі музыкі і іншыя.










**Беларусам быць модна**

**Гламурны мінскі клуб «Black Hall Bar» (Кісялёва, 12)** ладзіць вечарынку «Беларусам быць модна». 28 лістапада. Пачатак а 23.

**ТЭАТР**

**20 лістапада**

**Балет** — Вечар сучаснага балета
**Беларускай драматургіі** — Кантракт
**Купалаўскі** — Дон Жуан
**Лялек** — Малы і Карлсан, які жыве на даху
**Юнага гледача** — Ліса і вінаград

**21 лістапада**

**Беларускай драматургіі** — Фінт-Круазэ
**Купалаўскі** — Местачковае кабарэ
**Лялек** — Чароўныя падарункі
**Юнага гледача** — Міхалава зямля

**22 лістапада**

**Балет** — Лаўрэнсія
**Беларускай драматургіі** — Гісторыя двух сабак, Сталіца Эраўнд
**Купалаўскі** — Местачковае кабарэ
**Лялек** — Мыйдадзір
**Юнага гледача** — Беласнежка і сем гномаў

**23 лістапада**

**Беларускай драматургіі** — Два чароўныя парасоны, Адамавы жарты
**Купалаўскі** — Вечар
**Лялек** — Чырвоны Каптурок
**Опера** — Яўгеній Анегін
**Юнага гледача** — Тры парсючкі

**24 лістапада**

**Беларускай драматургіі** — Фаўст. Сны
**Купалаўскі** — Пан Тадэвуш

**25 лістапада**

**Беларускай драматургіі** — Адэль
**Купалаўскі** — Вячэра з прыдуркам
**Опера** — Тоска
**Юнага гледача** — Маленькі лорд Фаўнтлярой

**ВЫСТАВЫ**

**Сума Сумарум**

**Ад 13 лістапада да 13 снежня 2014** года ў Мінску пройдзе выстава і міжнародны форум беларускіх мастакоў «Сума Сумарум». Гэта першы праект легендарнай галерэі «Шостая лінія» пасля паўзы ў 16 гадоў. «Шостая лінія» — адна з першых і найбольш папулярных у Беларусі некамерцыйных галерэй сучаснага мастацтва, якая праіснавала ў Мінску з 1992 па 1998 год. За шэсць гадоў больш чым 60 мастакоў з Беларусі, Германіі, Польшчы і ЗША правялі ў галерэі 50 выставаў, мастацкіх акцый і перформансаў, якія нязменна прыцягвалі вялікую цікавасць гледачоў і СМІ.

**Коткі ў польскім коміксе**

**21 лістапада ў галерэі «Ў» (Незалежнасці, 37А)** адкрыецца выстава «Коткі ў польскім коміксе», пра феномен польскага комікса распавядуць польскія і беларускія мастакі. Пачатак а 19. Выстава працягнецца да 28 лістапада. У межах выставы тамсама 22 лістапада пройдуць майстар-класы "Як намаляваць комікс?»: для дзетак 6—11 гадоў (12:00—13:00) ды для моладзі і дарослых (14:00—16:00).

**КІНО**

**Любоў і лёс**

Лепшае ўва мне
**Жанр:** драма, меладрама
**Рэжысёр:** Майкл Хофман
**У ролях:** Мішэль Монаган, Джэймс Марсдэн, Люк Брэйсі, Ліяна Ліберата, Джэралд МакРэйні, Кэралайн Гудал, Кларк Пітэрс, Себасцьян Арселус
ЗША, 118 хв.

Аманда і Доўсан сустракаюцца праз 20 гадоў з нагоды смерці іх агульнага сябра, які пакінуў ім дом. Яшчэ падлеткамі яны былі закаханыя адно ў аднаго. Цяпер, калі за плячыма кожнага з іх ляжыць цэлае жыццё, яны ўзгадваюць маладосць і свае былыя пачуцці.
Фільм заснаваны на аднайменным рамане папулярнага амерыканскага пісьменніка Нікаласа Спаркса. Гэта дзявяты фільм, зняты па кнігах аўтара («Спяшайся любіць»(2002), «Дзённік памяці»(2004), «Ночы ў Раданцэ» (2008)), які працуе ў жанры меладрамы і апісвае таямніцы лёсу і чалавечых адносінаў.

Сюжэт аднач асова раскрывае дзве лініі: падзеі ўмоўнага нашага часу і дваццаці гадоў таму, калі Доўсан і Аманда пазнаёміліся і сустракаліся. Лініі ўмела пераплецены між сабой, і глядач паступова даведваецца, якія радасці і няшчасці перажылі галоўныя героі. Стужка мае светлы, часам трагічны настрой, схіляе да ідэі наканаванасці. Нягледзячы на агульную слёзавыцiскальнасць сюжэта, можна атрымаць асалоду ад прыгожых кадраў прыроды і інтэр'ераў, якімі насычаны фільм. Найперш ён спадабаецца жаночай аўдыторыі.

**Настасся Уласава**



# Прышэсце

Фантастычная п'еса. Піша **Аляксандр Апон**.

**Асобы:**
Тарэза і Галя — даяркі
Юзік-трактарыст
Стась
Баба Філя
Гаротная баба і Хворы мужык
Участковы
Загадчык фермы
Старшыня і Поп
Прадавачка

Дзея адбываецца ў вёсцы, на пляцы перад крамай «Родны кут». Воддаль бачна царква.

*Тарэза і Галя: З'яўляюцца адначасова, але з розных бакоў.*

**Тарэза** *(крычыць)*: Галя! Галя!
**Галя:** Што такое, што здарылася?
**Тарэза:** Тама, тама... *(Паказвае рукамі назад.)*
**Галя:** Што тама, што? Пажар? Ферма гарыць?
**Тарэза:** Не, сын Божы.
**Галя:** Які сын Божы?
**Тарэза:** Хрыстос.
**Галя:** Ты, дзеўка, гарэлкі з раніцы сербанула ці з глузду з'ехала? Не блюзнер!
**Тарэза:** Ён! Далібог! *(Жагнаецца.)* Ходзіць па возеры!
**Галя:** Ды ну.
**Тарэза:** Я на свае вочы бачыла: ва ўсім белым, а вакол яго птушкі кружляюць. А яшчэ, чуеш, на беразе два ваўкі сядзяць і зайцы каля іх.
**Галя:** Ну ты балбочаш: апошняга ваўка з паўвека таму застрэлілі. Мо сабакі?
**Тарэза:** Няўжо ж я сабаку ад воўка не адрозню? Ваўкі, ваўкі — вялізныя, шэрыя, калматыя, мабыць, з лесу выйшлі. Хадзем, сама забачыш. *(Хапае Галю за руку і цягне.)*
**Галя** *(вырываючы руку)*: Не, не пайду я.
**Тарэза:** Ваўкоў баішся? Яны ж ціхмяныя, што ягняты. Хадзем.
**Галя:** Ды не, каб што не выйшла баюся.
**Тарэза:** Божачкі мае, што ж можа выйсці?
**Галя:** Хто яго ведае — раптам запытаецца: « Што ж ты, Галя, замест таго, каб пацеры нанач шаптаць, на полі кукурузу латаешць лётаеш?» А я ж, дзеткамі, Тарэзачка, клянуся, толькі два разы і была. Ці во яшчэ...
**Тарэза** *(склаўшы рукі)*: А Галечка мая, а родненькая, аб чым ты — няўжо яму твая кукуруза абыходзіць?
**Галя:** Яму, можа, і не абыходзіць, а мне дык і надта, бо што мае куркі зімою есці будуць?

*Прычыкільвае баба Філя, з кульбачкай у руцэ.*

**Галя:** Во, баба Філя, з ёю схадзі.
**Баба Філя:** Куды гэта, дзеткі мае, схадзіць мецьмем?
**Галя:** На возера, там Хрыстос, сын Божы, па вадзе ходзіць. Дык вы падзівіцеся і... і адразу назад.
**Баба Філя:** Навошта?
**Тарэза:** Каб усім людзям затым абвесціць, каб усе ведалі.
**Баба Філя:** Не, не дайду я, нага баліць. Дый што мне ўжо — я і так не сёння-заўтра перад ім стану. *(Румзае.)*
**Галя:** Думаеце, перад ім?
**Баба Філя:** Перад ім, перад ім, што я — басурманка якая?
**Галя:** Вядома, што не басурманка, толькі ці гэтага хопіць?
**Баба Філя:** Хопіць. Але пра што я хацела казаць? А: гэта ж што ўчора са мною было.
**Галя і Тарэза** *(разам)*: Што?
**Баба Філя:** Пасярод дварышча знячэўку пакацілася. Во *(падымае спадніцу, каб паказаць сіняк на назе)*, як выцялася. Ляжу, думаю: усё, Філя, капцы табе, адпакутавала нарэшце. Калі нагу, думаю, не паламала, дык руку напэўна выкруціла. І так нешта зашкадавала сябе, што слёзы ажно цурком з вачэй пакаціліся. Каб хоць годзік які яшчэ пажыць, думаю, альбо два.
**Тарэза:** Ну, гадок пажывяце, вы ж яшчэ не старая.
**Баба Філя:** Не, не старая, на Пакровы восемдзесят сем стукне, а можа, і восемдзесят восем, я напэўна не ведаю, бо мае мама і тата непісьменныя былі, а царкоўныя кніжкі, у якія хто калі нарадзіўся запісвалі, у вайну згарэлі.
**Галя:** Тады яшчэ смела два.
**Баба Філя:** Каб твае словы ды Богу ў вушы. Але прыстала я нешта, прысяду. *(Сядае на прыступку.)*
**Галя** *(гледзячы ўбок)*: Вунь Юзік на трактары едзе.
**Тарэза:** Ага, ён.

*Прыязджае Юзік.*

**Тарэза:** Юзік, ты не каля возера арэш?
**Юзік:** Не, на Шарай горцы. А што?
**Тарэза:** Юзік, на возеры Хрыстос.
**Юзік:** Які Хрыстос?
**Тарэза:** Сын Божы.
**Юзік:** А-а... *(Чухае патыліцу.)* А што ён там робіць?
**Тарэза:** Па вадзе ходзіць.
**Юзік:** Так.
**Тарэза:** А вакол яго птушкі кружляюць, а на беразе два ваўкі і зайцы сядзяць.
**Юзік:** Не можа быць, у нас ніякіх ваўкоў няма.
**Тарэза:** Ёсць, пайшлі , сам забачыш.
**Юзік:** Не, не магу, мне араць яшчэ. Я ж па курыва прыехаў, курыва ў мяне скончылася. І вызы папіць хацеў узяць. Во, з Галяй схадзі.
**Галя:** Я баюся.
**Юзік** *(глядзіць на бабу Філю)*: Тады ўтрох, утрох не страшна.
**Баба Філя:** Мне нага баліць.
**Юзік:** Якая нага? Вы ўчора, калі мяне на трактары пераймалі, бегма па вуліцы беглі.
**Баба Філя:** Дык упала я потым, Юзічак, моцна пабілася. Во, сам паглядзі. *(Падымае спадніцу каб паказаць.)*
**Юзік** *(адварочваючыся)*: Не, чаго там, веру, веру.
**Баба Філя:** Дык ты, дзеткі мае, пра агарод мой не забудзься, ты абяцаў
**Юзік:** Добра, баба Філя, узару, вось толькі на Шарай горцы скончу і...
**Галя:** Юзік, а мне?
**Юзік:** Што?
**Галя:** Агарод узараць.
**Юзік:** Добра. Але потым
**Галя:** Ты заўсёды так: потым ды потым.
**Юзік:** Дык я ж адзін, а вас — уга колькі!
**Тарэза** *(паказваючы рукой убок)*: Гляньце, вунь хтось бяжыць.

*Усе глядзяць.*

**Юзік:** Ага, ва ўсе лапаткі шыбуе.
**Галя:** Але ж хто гэта?
**Тарэза:** З вудай як быццам.
**Юзік:** Калі з вудай, дык Стась , больш няма каму.
**Галя:** Так, ён.
**Юзік:** Вось у каго не жыццё, а маліна: ні араць у галаве, ні сеяць.
**Тарэза:** Ён не вінаваты, у яго запаленне ў мазгах, нездарма яго з войска камісавалі.
**Галя:** А як кніжкі чытаць, дык запалення няма. Ён жа ўсе кніжкі ў бібліятэцы перачытаў.
**Юзік:** Гэта праўда, у яго ў вартоўні на ферме мо з тузін іх на паліцы стаіць, я сам бачыў.

*Убягае Стась.*

**Стась:** Людзі! Людзі!
**Юзік:** Ну што людзі, што? Тута мы.
**Стась:** Там, там...*(Паказвае вудай назад.)*
**Юзік:** Што там, што?
**Стась:** На возеры!
**Юзік:** Што на возеры?
**Стась:** Хрыстос!
**Тарэза:** Ага, а што я вам казала.
**Стась:** Па вадзе ходзіць, увесь у белае прыбраны. Я пакуль да самага берага не падышоў, не бачыў. Муціла нешта крыху пасля ўчорашняга , я ж Касьяну дровы дапамагаў пілаваць. Ну, выпілі вечарам па кроплі.
**Юзік:** Гэта вядома. І што?
**Стась:** Падышоў, значыцца, галаву падняў і аслупянеў: за крокаў дзесяць стаіць на вадзе і гэтак пазірае, быццам шкадуе, быццам немаўля я неразумнае.
**Тарэза:** А які ён з выгляду?
**Галя:** Дык ты ж яго таксама бачыла.
**Тарэза:** Я здалёк, не разгледзела.
**Стась:** З валасамі доўгімі, як мы хлопцамі насілі, і барадою. І яшчэ... яшчэ худы моцна, як выпетраны, адна скура і косткі. Не ведаю, колькі так часу мінула, а толькі не вытрымаў я ўрэшце, павярнуўся і пабег.
**Галя:** А ваўкоў, ваўкоў на беразе не было?
**Стась:** Можа, і сядзелі дзе там, не бачыў я, дый не да іх мне было. *(Урачыста.)* Людзі! Людзі! Ісус Хрыстос прыйшоў! *(Жагнаецца.)* Дзве тысячы гадоў дзе толькі не чакалі, а ён у нас з'явіўся. Гэта ж якое жыццё зараз пачнецца!
**Галя:** Якое?
**Стась:** Людскае.
**Галя:** А якое гэта, людскае?
**Стась:** А гэта такое, калі ніхто ні над кім панаваць не будзе.
**Галя:** Ідзі ты! І начальнікаў не будзе?
**Стась:** Не будзе. І войнаў не будзе, і забойстваў, і гвалту рознага, увогуле людзі есці адзін аднаго перастануць, а жыць будуць як браты.
**Баба Філя:** А ваўкі?
**Стась:** Што ваўкі?
**Баба Філя:** Ваўкі, пытаюся, што есці будуць, калі не зайцоў, няўжо траву, як каровы, скубаць? Альбо шчупакі твае, калі не кілбоў, дык што?
**Стась:** Не ведаю, але хопіць і ваўкам, і шчупакам, усім усяго хопіць.
**Галя:** Калі яшчэ тое будзе, а вось што нам цяпер, падкажы, рабіць?
**Стась:** Трэба падымаць усіх, збірацца ў гурт — і разам на возера.

*Пад'язжае на «газіку» Участковы.*

**Стась** *(не бачачы Участковага, у запале)*: Бяжыце па вёсцы, грукайце ва ўсе хаты. Ты, Юзік, на ферму кіруй. А я на званіцу *(паказвае на царкву)* у звон біць.

*Стась паварочваецца, робіць крок і налятае на Участковага.*

Участковы: Стаяць! На месцы! Што тут у вас за ліха, каб у звон біць? Рэвалюцыя? Вайна?
**Стась:** Не, Хрыстос прыйшоў.
**Участковы:** Хто-хто?
**Стась:** Хрыстос, сын Божы.
**Участковы:** Дзе? *(Круціць галавой.)*
**Стась:** На возеры.
**Участковы:** Ага, я бачу ты з вудай. Значыць, з возера. І *(падымае са значэннем угару палец)* прашу звярнуць увагу: усе з матыкамі *(робіць неакрэслены жэст рукой)* альбо *(кідае выразны позірк на Та-*



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

*рэзу і Галю)* пасля ранішняй дойкі, а ты з вудай.

**Юзік:** А я на трактары, па курыва прыехаў, курыва ў мяне скончылася.

**Участковы:** Бачу.

**Стась:** Ды пры чым тут вуда. *(Адкідае вуду ўбок.)* Хрыстос прыйшоў, кажу, сын Божы.

**Участковы:** Ну, ну, і ты яго бачыў?

**Стась:** Бачыў.

**Участковы:** І які ён, прыкметы можаш назваць?

**Стась:** Як свет прыгожы.

**Участковы:** Гэта не прыкмета. Валасы якія?

**Стась:** Доўгія.

**Участковы:** Можа, яшчэ з барадой?

**Стась:** Ага, барадаты.

**Участковы:** А веку якога: стары?

**Стась:** Не, сярэдняга.

**Участковы:** Так, зразумела. Паехалі далей: як апрануты?

**Стась:** У белым хітоне.

**Участковы:** Што гэта за апранаха?

**Стась:** Накшталт мяшка з дзіркамі.

**Участковы:** А асаблівыя прыкметы ёсць?

**Стась:** Па вадзе ходзіць.

**Участковы:** Ага-ага, па вадзе ходзіць, у гэтым уся справа. А ці не выпіваў ты, Стась, надысь?

**Стась:** Выпіў крыху з Касьянам, дровы яму дапамагаў пілаваць.

**Участковы:** Во-во-во, усё зразумела. Ну, залазь у машыну, на возера злётаем , паглядзім, хто там па вадзе ходзіць. *(Да астатніх.)* А вы тут пакуль пачакайце, не разыходзьцеся, толькі народ мне не баламуцьце, не трывожце дачасна, мы хутка назад.

*Участковы і Стась ступаюць да машыны, але іх запыняе Тарэза.*

**Тарэза:** Там ён сапраўды.

**Участковы:** Адкуль ведаеш?

**Тарэза:** Бачыла, калі з фермы варочалася.

**Участковы:** Мы-гы. Ну тады і ты ў машыну. *(Да астатніх, з пагрозай.)* А вы мне глядзіце, каб ні гу-гу.

*Участковы, Стась і Тарэза ад'язджаюць. Падыходзіць Хворы мужык.*

**Хворы мужык** *(кіўнуўшы галавой на краму)*: Зачынена?

**Юзік:** Не, заходзь.

**Хворы мужык** *(з палёгкай)*: Фу. А я здалёк бачу: людзі стаяць, ну, думаю, усё — пераўлік альбо яшчэ якая бяда. Ажно сэрца залекатала. *(Бярэцца за сэрца.)* Я ж хворы, сэрца ў мяне; як што якое, лякоча, бляха, спасу нямашака.

**Галя:** Ад сэрца настой палыну памагае.

**Хворы мужык** *(скрывіўшыся як серада на пятніцу)*: Э, лухта.

**Галя:** Тады кропу.

**Хворы мужык** *(махнуўшы рукой)*: Спрабаваў і яго.

**Баба Філя:** А кінуць піць не спрабаваў?

*Хворы мужык, зіркнуўшы ваўком на бабу Філю, заходзіць у краму.*

*Падыходзіць Гаротная баба.*

**Гаротная баба** *(паказваючы рукой у той бок, куды паехаў «газік»)*: Куды ён іх павёз?

**Галя:** Так, паехалі сабе пакатацца.

**Гаротная баба:** Пакатацца? О! Ён пакатае — толькі трымайся! Гэтак пакатае, што да скону не забудуцца. Гэта ж што, злыдзень, учыніў са мною, чулі: намовіў бітон гарэлкі яму выгнаць, маўляў, на хрэсьбіны, і абавязкова каб найлепшага гатунку — першаку. Калі ж я выгнала, мала таго, што забраў задарма, дык яшчэ штрафу мне выпісаў за смаганаварэнне. Каб ён абапіўся той гарэлкай. Каб далей, чым бачаць, ёю рыгаў. Каб у яго пячонка выперла, каб ныркі паадвальваліся!

*Выходзіць Хворы мужык з бутэлькай у кішэні портак, якую прытрымлівае рукой.*

**Гаротная баба:** А во, яшчэ адзін, прыгажун. *(Да Хворага мужыка.)* Ты калі думаеш грошы аддаваць?

*Хворы мужык, павярнуўшыся да Гаротнай бабы бокам, дастае з кішэні бутэльку і, здзёршы зубамі корак, які выплёўвае долу, глыкае з рыльца.*

**Хворы мужык:** А-а-а... *(Выцірае рукавом рот і, засунуўшы бутэльку ў кішэнь, закаркоўвае ўказальным пальцам.)* Якія грошы?

**Гаротная баба:** За гарэлку.

**Хворы мужык:** Якую гарэлку?

**Гаротная баба:** Якую ты ў мяне на тым тыдні выклянчыў.

**Хворы мужык:** Я?

**Гаротная баба** *(наступаючы на Хворага мужыка)*: Ты.

**Хворы мужык:** А, той літр. Ну аддам, аддам, доўг не вяроўка — не парвецца.

**Гаротная баба:** Калі аддасі?

**Хворы мужык:** Днямі. *(Глядзіць убок.)* Эге, участковы едзе. Ну, вы як сабе хочаце, а я ў бульбу хавацца.

*Хворы мужык знікае. Прыязджае Участковы і Загадчык фермы.*

**Участковы:** Усё разыходзьцеся, няма чаго тут, па хатах марш.

**Загадчык фермы:** Ану, хуценька мне!

**Галя:** Як па хатах, чаму? А Хрыстос?

**Гаротная баба** *(натапырыўшы вушы)*: Які Хрыстос?

**Участковы:** Які Хрыстос? Ты што выдумляеш? Няма ніякага Хрыста.

**Галя:** Як няма Хрыста, калі быў.

**Участковы** *(наступаючы на Галю)*: Дзе быў? Калі? Ты яго бачыла?

**Галя:** Не, я не, але Тарэза бачыла, і Стась...

**Участковы:** Нічога яны не бачылі, здалося ім. Зразумела?

**Загадчык фермы:** А як не, дык мы табе зараз растлумачым. *(Паказвае кулак.)* Пайшла! *(Штурхае Галю і потым падступае да Юзіка.)* А ты тут чаго, на Шарай горцы даараў?

**Юзік:** Не, я па курыва прыехаў, курыва ў мяне скончылася.

**Загадчык фермы** *(дастае з кішэні цыгарэты)*: На пачак — і на горку, каб да вечара кроў з носу мне скончыў.

**Юзік:** Скончу.

*Юзік сядае на трактар і ад'язджае. Разыходзяцца астатнія, акрамя бабы Філі.*

**Загадчык фермы:** А ты што, старая, сядзіш, табе асобная каманда патрэбная?

**Баба Філя:** Не магу я, дзеткі, ісці: нага баліць.

**Загадчык фермы:** Якая нага?

**Баба Філя** *(выстаўляе правую нагу)*: Во гэта.

**Загадчык фермы:** А чаго яна ў цябе баліць?

**Баба Філя:** Упала ўчора, выцялася. Во, глядзі, які сіняк. *(Задзірае спадніцу, каб паказаць.)* Мо, дзеткі, параіце, чым памазаць?

**Загадчык фермы** *(адварочваючыся)*: Не, не, я не доктар, нічога не цямлю.

**Участковы** *(да Загадчыка фермы)*: Мо дахаты бабу адвезці?

**Загадчык фермы:** Яшчэ чаго, будзем бензін на яе марнаваць, дойдзе сама, сюды ж неяк прыклыпала.

*Пад'язжаюць на «Ніве» Старшыня і Поп.*

**Старшыня:** Ну, што ў вас?

**Участковы:** Усё, як вы распарадзіліся: людзі, хто не на працы, па хатах сядзяць, вешчуны пад замком на ферме.

**Старшыня:** Надзейна, не вылезуць?

**Загадчык фермы:** Не, мы іх у стойла быка пасадзілі.

**Старшыня:** Быка ж куды?

**Загадчык фермы:** Да кароў.

**Старшыня:** Добра, лады. Ну, а што з гэтым, як яго... э-э-э... што па вадзе ходзіць?

**Участковы:** Хрыстом?

**Старшыня:** Але.

**Участковы:** Нічога новага.

**Старшыня:** Што, няўжо ўсё яшчэ ходзіць?

**Участковы:** Ходзіць.

**Старшыня:** І птушкі вакол кружляюць?

**Участковы:** Кружляюць?

**Старшыня:** І ваўкі на беразе з зайцамі сядзяць?

**Участковы:** Сядзяць.

**Старшыня:** Мда, справы. А што ты, бацюшка, пра гэта думаеш?

**Поп:** Што думаю: дзіўна ўсё гэта вельмі — вось што думаю. Дзве тысячы гадоў жылі самі па сабе, прывыклі, так-сяк спраўляліся, а тут на табе — з'явіўся. Каб хоць знак які падаў, што, маўляў, чакайце, рыхтуйцеся, скора буду, дык не — як снег на галаву ўпаў. І яшчэ, бачыце, святой царквой пагрэбаваў, носа нават не ўткнуў, а на возеры па вадзе ходзіць. Крыўдна, не заслужылі мы гэтага, далібог не заслужылі. *(Жагнаецца.)*

**Старшыня:** Ну, бацюшка, нічога, крыўда не хвароба, без лекаў пройдзе. Я, каб усе крыўды, што мне ўчынілі, у сабе трымаў, дык ужо гэтак надзьмуўся б, што як мыльны пухір покнуў бы. А так, плюнуць табе, скажам, у твар, а ты: «Хі-хі-хі, шчыра дзякую, вельмі рады»; ножкай шаркнеш, хустачкай абатрэшся і пойдзеш сабе пасвістваючы. Ну а калі ўжо да таго дапякуць, што сіл няма, дык фігу ў кішэні скруціш — і нічога.

**Поп:** Так, сын мой, пыха — грэх.

**Старшыня:** А ўсё, бацюшка, грэх, куды ні ткніся: штось смачнае захацеў з'есці — не чапай, грэх; на бабу чужую вока паклаў — блуд, грэх смяротны; п'янаму трактарысту поўху заляпіў — лепш засіліцца, пакуль лютасць не апанавала канчаткова; а ўжо калі пагрэў уласную кішэню, клапоцячыся пра старасць ці каб дзецям нешта пакінуць, — будзеш гарэць у пекле век... А ўсё ён, гэты, што па вадзе ходзіць, усё праз яго. Дык што будзем з ім рабіць, ёсць у каго на гэты конт думкі?

**Участковы:** Ёсць у мяне адна

**Старшыня:** Выкладвай.

**Участковы:** Трэба даць папераджальны стрэл у паветра. *(Кладзе руку на кабуру пісталета.)* Калі ж не адумаецца...

**Старшыня** *(перапыніўшы)*: Ну ты хапіў, а яшчэ маёр.

**Участковы** *(гарачыцца)*: А што ён тут, чаго? Дакументы ў яго ёсць? А дазвол па вадзе хадзіць браў?

**Старшыня:** Гэта ты ўсё слушна кажаш, але адразу страляць? Не. *(Глядзіць на Загадчыка фермы.)* Яшчэ якія будуць прапановы?

**Загадчык фермы:** Можа, спусціць ваду з возера?

**Старшыня:** Добры план, але каб спусціць усё возера двух дзён не хопіць, а столькі часу ў нас няма; ужо, думаю, па вёсцы чутка пайшла. Потым ніякімі стрэламі не дамо рады адагнаць — ні ў паветра, ні нават калі палову вёскі перастраляем. *(Да папа.)* А ты, бацюшка, што скажаш?

**Поп:** На возера ісці трэба, працэсіяй, з абразамі, і там на беразе, укленчыўшы, слёзна прасіць, каб зліціваўся, пакінуў нас у спакоі.

**Старшыня:** А паслухае?

**Поп:** Паслухае, ён добры.

**Старшыня:** Ага, хай сабе на якое другое возера пяройдзе , калі яму без гэтага нельга, калі такая гэта асалода — па вадзе хадзіць. У Фінляндыю, напрыклад, альбо Швецыю. Там і азёры большыя і чыстыя — хоць у бутэлькі ваду разлівай. А нашае аж смярдзіць, гэтак засралі.

**Поп:** Ну, то не будзем марнаваць час, рушым.

**Старшыня:** А мо, каб хутчэй, на калёсах махнём?

**Поп:** Не, міране, пяшэчкам.

*Старшыня, Поп, Участковы і Загадчык фермы адыходзяць.*

*Выходзіць з крамы Прадавачка.*

**Прадавачка:** Куды гэта яны, цікава, ды яшчэ сваімі нагамі патэпалі? Вось дзіва! *(Да бабы Філі.)* Баба Філя, не ведаеш, га? *(Дакранаецца да бабы Філі рукой, ад чаго тая валіцца на бок.)* А божачкі, здрындзілася, старая!

**Аляксандр Апон**

Пісьменнік. Жыве ў Гродне. Працуе прадпрымальнікам.

### Каля Ikea ў Вільні будуецца новая гандлёвая даліна

Яна будзе звацца Nordika і мець плошчу каля 40 000 квадратных метраў. Тут будзе дзейнічаць каля паўсотні крамаў.Адкрыццё плануецца восенню 2015 года. Інвестыцыі ў гэты праект складуць амаль 50 млн еўра.

### Новы год у рэстаране? Мінімум 500 тысяч рублёў

Каля 80% рэстаранаў і кавярняў Мінска ўжо прынялі заказы на правядзенне перадновагодніх і навагодніх мерапрыемстваў. Пра гэта паведамілі БелТА ў галоўным упраўленні спажывецкага рынку Мінгарвыканкама. Аднак цэны кусаюцца!

### 1500—2000$: сакратарка, якая аказвае сэкс-паслугі

Сэкс з начальнікам — адзін з наймацнейшых стэрэатыпаў аб працы сакратаркі. Наколькі гэта адпавядае рэчаіснасці? Група расійскіх юнакоў правяла эксперымент — запрасілі студэнтак на сумоўе, дзе прапанавалі працу з важнымі чыноўнікамі, якая будзе ўключаць у сябе аказанне інтымных паслугаў. Хлопцы сцвярджаюць, што ніводная з 15-ці дзяўчат не адмовілася ад такога заробку, пытанне было толькі ў цане. Усё гэта хлопцы знялі на відэа, яго можна пабачыць на сайце NN.BY.



Жахі

## У Гродзенскай вобласці кампанія юнакоў атруцілася наркотыкамі

21-гадовы хлопец памёр ад перадазіроўкі на месцы, астатнія балансуюць на мяжы інваліднасці. Наркадылер прадаў маладым людзям парашок, які з'яўляецца канцэнтратам наркатычнага рэчыва і выкарыстоўваецца ў курыльных міксах. Яго яшчэ называюць «хуткасць». Удыхнуўшы парашок, усе трое паехалі дахаты і па дарозе ім стала кепска. Кіроўца паспеў спыніць машыну каля вёскі Алекшыцы Бераставіцкага раёна.

Аўтамабіль стаяў там даволі доўга і звярнуў на сябе ўвагу. Міліцыянеры знайшлі гаспадара легкавіка памерлым, яго сябры былі ў цяжкім стане, іх адправілі ў рэанімацыю.

## Жыхар Новасібірска забіў сябра шакаладным батончыкам

«Абвінавачаны ў ходзе сваркі са сваім сябрам недалёка ад чыгуначнай станцыі «Аэрафлот» г. Обі стаў збіваць яго, паваліў на зямлю, працягваючы наносіць удары нагамі па яго галаве і целе. Праз некаторы час абвінавачваны дастаў шакаладны батончык і з сілай запхнуў яго ў рот пацярпелага, перакрыўшы дыхальныя шляхі», — гаворыцца ў паведамленні рэгіянальнай пракуратуры.

Пацярпелы мужчына памёр на месцы.

Заведзена крымінальная справа па артыкуле «Наўмыснае прычыненне цяжкай шкоды здароўю, што пацягнула па неасцярожнасці смерць пацярпелага».

Падазраваны затрыманы, яму пагражае да 15 гадоў турмы.




Прэзідэнту Расіі Уладзіміру Пуціну на саміце «Вялікай дваццаткі» ў аўстралійскім Брысбене зладзілі халодны прыём. Генеральны пракурор Аўстраліі Джордж Брандыс і генерал-губернатар Пітэр Касгроўв у аэрапорце адмовіліся павітаць і паціснуць руку прэзідэнту Расіі. А на ланчы ніхто не хацеў скласці кампанію Пуціну. У выніку кіраўнік Расіі нават пакінуў саміт датэрмінова, спаслаўшыся на тое, што яму неабходна крыху паспаць перад выходам на працу ў панядзелак. У аэрапорт Пуціна ніхто не праважаў, таму ён паціснуў рукі толькі патрульным паліцэйскім.




У Палацы мастацтваў адкрыўся чарговы кірмаш. Прадаўцы анансавалі нізкія кошты — джынсы па 100 тысячаў, пухавікі па 400. Такія прапановы прывабілі дзясяткі людзей, у асноўным пенсіянераў, якія выстраілі даўжэзную чаргу.

КІРЫЛА ХІЛЬКО




98-гадовы ветэран Другой сусветнай Джастус Белфілд. У чыне майстар-сяржанта браў удзел у Ардэнскай аперацыі. У аўторак 11 лістапада сабраўся на штогадовы парад у Дзень ветэранаў, але зразумеў, што не зможа падняцца з ложка. На наступны дзень Джастус Белфілд памёр.



Маме амерыканскага сенатара, былога кандыдата ў прэзідэнты ад Рэспубліканскай партыі Джона Макейна, — 102 гады. Цікава, што сястра-блізнятка Раберты пражыла 99 гадоў. Тата пражыў 95, а маці — 87. Таму ўвесь яе род схільны да доўгажыхарства.



## Анекдоты і жарты

* * *

Акрапілі святой вадой самыя аварыйныя скрыжаванні. Цяпер галоўнае, каб не прымарозіла.

* * *

Чай — напой, які дае табе нагоду з чыстым сумленнем з'есці перад сном паўкіло цукерак і некалькі бутэрбродаў.

* * *

Па статыстыцы фразу «О, божа, які велізарны!» часцей за ўсё чуе маленькі павучок.

* * *

*WikiLeaks* апублікаваў тэлеграму Санта Клаўса са спісам дрэнных дзяцей і іх бацькоў.

* * *

Заможная дзяўчына наняла прыватнага дэтэктыва, каб сачыць за сваёй фігурай.

* * *

Заканчваецца другі год нашага сямейнага жыцця. Муж да гэтага часу думае, што не есць кабачкоў і цыбулі.

* * *

Размова па мабільным:
— Мілы, вітанне! Чым займаешся?
— Ляжу ў ложку, засынаю... А ты?
— А я сяджу ў бары за тваёй спінай, гляджу, як ты, гад, круцішся і не можаш заснуць...

* * *

Бабёр, убачыўшы паляўнічага, апазнаў на яго галаве зніклага дзеда.

* * *

Лекар кажа:
— Каб ваш муж хутчэй ачуняў, яму трэба больш піць і гуляць.
Жонка:
— Доктар, я тады дзіўлюся, як ён наогул умудрыўся захварэць?!

## «НН» сто гадоў з вамі

**Начальнік мінскай турмы граф дэ Рашфорт** яшчэ ўлетку пры ўваходзе ў рэстаран «Рэнесанс» зняважыў «дзействіем» аўтамабільнага шовера (фурмана). За гэта акружны суд засудзіў пана начальніка на 30 дзён пасядзець.

**«НН». №46. 1914.**

**Зелянкоўская ў чорным спісе.** Нацыянальная кіназорка Святлана Зелянкоўская трапіла ў чорны спіс асобаў, якіх не рэкамендавана прапускаць у дзяржаўныя СМІ. Акцёрка не ўпісалася ў дзяржаўную культурную палітыку, бо не баіцца выказваць уласную пазіцыю і падкрэслівае сваю любоў да беларускай мовы. «Дык ты нацыяналістка?» — спытаўся Лукашэнка ў Зелянкоўскай, якая падчас сустрэчы размаўляла з ім па-беларуску. Яна адказала: «Лічыце як хочаце. Я нармальны чалавек».

**«НН». №43. 2004.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Таццяна Кур'ян
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**

 Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 7004. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 18.11.2014.
Замова №4452.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614

